


# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

**№ 404 Жнівень 1993**
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## ПЕРШЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Поўнасьцяй асэнсаваць значэньне Першага зьезду беларусаў сьвету можна будзе адно з часам — сабраўшы ўсе факты, выказваньні, публікацыі. Бо Зьезд — гэта ня толькі тры дні пленарных паседжаньняў у сталічным тэатры опэры й балету (8-10 ліпеня) і выпрацаваныя на іх дакумэнты, а гэта і групавыя падарожжы ў Полацак, Віцебск, Наваградак, Нясьвіж ды іншыя мясьціны, і сямейныя спатканьні, і асабістыя новыя знаёмствы. Усё гэта адбывалася на працягу колькіх тыдняў. Шмат хто з удзельнікаў Зьезду даваў інтэрв'ю тэлебачаньню, радыё, друку. Некаторыя з гэтых матар'ялаў яшчэ ня выкарыстаныя. Рэха першага сусьветнага форуму беларусаў будзе далей яшчэ гучэць і новымі галасамі, і паўторамі пры розных нагодах. Але сёньня ўжо ясна — пра гэта выказваліся і прамоўцы на самым Зьезьдзе, і камэнтатары ў сродках масавай інфармацыі — што гэта была падзея гістарычнага, якая паглыбіла працэс беларускага нацыянальнага выздараўленьня і адначасна паставіла на вышэйшы ўзровень сувязі Бацькаўшчыны з эміграцыяй. Пад уплывам падобных зьездаў, што адбыліся крыху раней у навакольных рэспубліках і ў выніку няўхільнае эвалюцыі палітычнага клімату ў кірунку да плюралізму й дэмакратызацыі, беларускія ўлады пайшлі напярэймы грамадзкай ініцыятыве, скіраванай на актывізацыю духовых рэсурсаў народу, на кансалідацыю нацыі. ЛіМавец Юрась Залоска вельмі трапна адзначыў, што Зьезд «стаўся кампрамісам паміж нацыянальна-грамадзянскай беларускай супольнасьцю і дзяржавай (Рэспублікай Беларусь), мастком паміж народам і ўладай». (ЛіМ, 10-16.07.93) Гэты «масток» вельмі патрэбен Беларусі сёньня. Бо пад ім — глыбокая прорва. «Масток» гэты трэба мацаваць, пашыраць, каб па ім можна было і людзям свабодна езьдзіць, і тавары бесьперашкодна вазіць. Толькі ў гэткай камунікацыі — шанцы на выхад з крызісу, зарука лепшых часоў. Вонкавы сьвет ня мае для Беларусі дэтальных рэцэптаў на рэьвязваньне праблемаў і ўладкоўваньне сацыянальна-палітычнае згоды. Да гэтага трэба прыйсьці сваім розумам, сваймі здольнасьцямі, сваёй працавітасьцяй. Патрэбныя палітычныя кампрамісы, патрэбен «масток». У прыбалцкіх рэспубліках, прыкладам, ён разбудаваны ўжо да таго, што дыяспара актыўна падключаная да самых розных адукацыйных, эканамічных, дыпляматычных і іншых дзяржаўных праграмаў. «Не загіне край забраны, покі будуць людзі», пісаў яшчэ да рэвалюцыі Янка Купала. Адраджэньне, дзяржаўнае будаўніцтва — гэта людзі. І калі сёньня для Беларусі адна з найгалаўнейшых

*(Працяг на 2-й ст.)*

## ВІЗЫТ СТ. ШУШКЕВІЧА Ў ВАШЫНГТОН

З трохдзённым афіцыйным візытам (21-23 ліпеня) наведала сталіцу Злучаных Штатаў дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынём Вярхоўнага Савету Станіславам Шушкевічам. У складзе дэлегацыі былі высакапастаўленыя дзяржаўныя асобы, у тым ліку Міністар абароны П. Казлоўскі, Старшыня КДБ Э. Шыркоўскі, Першы заступнік прэм'ера М. Мясьніковіч, Старшыня аднае з парлямэнцкіх камісіяў Н. Гілевіч ды іншыя, усіх 14 асобаў. Ня было сярод іх аднак Міністра замежных справаў П. Краўчанкі, у якога апошнім часам паўстаў войстры канфлікт са сп. Шушкевічам. Сп. Краўчанка, паводля менскага радыё («Радыёфакт», 30 чэрвеня) сказаў, што «такія візыты не прадугледжваюць удзелу міністра замежных спраў». Выказваюцца і іншыя меркаваньні. Гэтак, менская газэта «Белорусский рынок» (№ 10, травень 1993), пішучы пра канфлікт, пра «нэрвознасьць абодвух бакоў», зазначыла: «Цяжка ўявіць, што пры гэткіх адносінах міністар замежных спраў будзе суправаджаць Старшыню ВС Беларусі ў паездцы ў Вашынгтон, якая мае адбыцца».

Беларускай дэлегацыі ў Вашынгтоне была выказаная вялікая пашана. Дэлегатаў памясьцілі ў прэзыдэнцкім доме Блэр-Гаўз насупраць Белага Дому, што агульна ўспрыймаецца як знак асаблівай павагі.



*На прыняцьці ў пасольстве РБ са сп. Ст. Шушкевічам (другі справа) стаяць (зьлева): Г. Бураўкін, пасол РБ пры ААН, др. Я. Запруднік, рэдактар «Беларуса», сп-ня Ю. Бураўкіна, сп. Я. Ханенка, старшыня аддзелу БАЗА ў Клііўлендзе, сп. Р. Завістовіч, старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі.*

Перамовы вяліся па самых важных пытаньнях: ядзернае раззбраеньне, гарантыя бясьпекі Беларусі, эканамічная дапамога, навукова-культурны абмен. Адбылося паўтарагадзіннае спатканьне Старшыні Шушкевіча з Прэзыдэнтам Клінтанам. На прыняцьце ў беларускім пасольстве на завяршэньне візыту прыбыў Віцэ-прэзыдэнт ЗША Ал Гор, які ў сваёй прамове падкрэсьліў яшчэ раз важнасьць амэрыканска-беларускіх дачыненьняў.

Пры ўсёй значнасьці афіцыйнага боку візыту загадкавым тымчасам застаецца маўчаньне пра гэтую падзею вялікіх тэлевізійных карпарацыяў Амэ-

*(Працяг на 3-й ст.)*

## ДАКУМЭНТЫ ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

### ЗВАРОТ

**Першага зьезду да беларускага народу**

Доўгія і складаныя пуцявіны вялі да паяднаньня беларускай нацыі, воляю лёсу раскіданай у сьвеце. Амаль усе эўрапейскія народы ўжо даўно перажылі сваё станаўленьне ў якасьці нацыянальнага адзінства. Перамогі і страты згуртавалі іх, умацавалі іх сілу і волю ў імкненьні да самастойнага жыцьця. Беларусы-ж усё яшчэ пакутуюць на раздарожжы свайго гістарычнага шляху.

Але надыйшоў час вырашаць свой лёс. Цяпер, альбо ніколі. Беларусь атрымала гістарычны шанц набыць рэальную дзяржаўнасьць, самастойнасьць поўны сувэрэнітэт. І гэты шанц неабходна выкарыстаць.

Мы павінны мабілізаваць усе сілы, каб ня толькі адстаяць першыя поступы дэмакратыі, незалежнасьці, нацыянальнага адраджэньня, але і рушыць далей, да вялікіх, зорных зьдзяйсьненьняў — адбудовы агульнага Беларускага Дому. Гэту высокую, наканаваную Богам місію мы здолеем выканаць толькі тады, калі адбудзецца ўсенароднае абуджэньне да сьвядомага нацыянальнага жыцьця, калі вернем сабе гістарычную памяць, якую ў нас адбіралі цэлыя стагодзьдзі, глыбока ўсьвядомім, хто мы ёсьць і кім павінны быць у гэтым сьвеце. Мы можам ажыцьцявіць гістарычную справядлівасьць і назаўсёды замацаваць незалежную Беларусь на карце Эўропы не як геаграфічнае паняцьце, а як шанаваную, поўнавартасную дзяржаву беларускага народу і іншых народаў, што здаўна жывуць на нашай зямлі.

Дасягнуць гэтага можна толькі аб'яднаўшы сілы беларусаў на Бацькаўшчыне і тых яе адданых дзяцей, што жывуць па-за межамі Беларусі, але захавалі ў сваіх сэрцах любоў да яе. Адольваючы ўсе перашкоды і нягоды, мы зможам дайсьці да жаданай свабоды, зладзіць цывілізаванае, заможнае і культурнае жыцьцё для сябе і сваіх нашчадкаў.

Жыве наша Бацькаўшчына! Жыве Беларусь!

Прынята 10.07.93, г. Менск.

## ПРЫВІТАНЬНЕ ПЕРШАМУ ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ АД АНТОНА ШУКЕЛАЙЦЯ, СТАРШЫНІ БАЗА

Дарагія Суродзічы!

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне шчыра вітае ваш высокі форум і жадае, каб ён прайшоў як найпамысьней для справы яднаньня беларусаў у імя свабоднай і незалежнай Бацькаўшчыны. Першы зьезд беларусаў сьвету — падзея гістарычнага значэньня. Ён назначае сабой новую фазу больш актыўных узаемадачыненьняў паміж беларускай дыяспарай і Радзімай. Сябры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня радыя, што настаў час цясьнейшых кантактаў паміж Рэспублікай Беларусь і беларускай эміграцыяй на ўсіх узроўнях, афіцыйных і прыватных. Гэткія кантактаў патрабуе справа адраджэньня Беларусі, умацаваньня беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасьці і пашырэньня амэрыканска-беларускіх дзелавых сувязяў. Беларусы Амэрыкі прыкладуць усе намаганьні, каб эканамічныя і культурныя кантакты паміж Злучанымі Штатамі і Рэспублікай Беларусь былі пастаўленыя на як мага шырэйшую аснову. Гэтаму паспрыяе ў вялікай меры Першы зьезд беларусаў сьвету. Мы перакананыя, што ў амэрыканска-беларускіх сувязях закладзены багаты патэнцыял для ўзбагачэньня абодвух бакоў. Першы зьезд беларусаў сьвету мае ўсе магчымасьці стацца моцным імпульсам для прысьпешаньня ўзаемавыгаднага эканамічнага й культурнага абмену паміж Злучанымі Штатамі Амэрыкі і Рэспублікай Беларусь. Няхай-жа шырыцца і квітнее амэрыканска-беларускае сяброўства ды супрацоўніцтва.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ДАКУМЭНТЫ ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ

*(Працяг зь 1-й ст.)*

## ЗВАРОТ

**беларусаў замежжа, удзельнікаў Першага зьезду беларусаў сьвету**

Беларускі Народзе!

Мы, Твае сыны й дочкі, разьнесеныя па цэлым шырокім сьвеце вятрамі нядолі, што напаткала наш край, зьехаліся з Поўначы й Паўдня, з Усходу й Захаду ў сталіцу сувэрэннай Беларускай дзяржавы — Менск, каб удыхнуць гаючае паветра роднай зямлі, наталіць зрок лагоднымі беларускімі краявідамі, сустрэцца з дарагімі сэрцу сваякамі й суродзічамі, адчуць цяплыню іхных душаў. У лучнасьці з Бацькаўшчынай, гэтай жыватворнай духовай крыніцай, тоіцца сакрэт нашага супольнага выжываньня, вытрываласьці ды перамогі над усімі цяжкасьцямі й перашкодамі на шляху да свабоды й дабрабыту.

Божай воляй мы дачакаліся часу, калі можам зьязджацца з цэлага сьвету ў цудоўны край свайго паходжаньня, на свае вочы аглядаць яго, адчуваць пульс ягонага жыцьця, разам цешыцца й разам хвалявацца ды супольнымі намаганьнямі шукаць выйсьця зь няпростага становішча.

Мы ганарымся й радуемся, што Беларусь узыйшла на шлях нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва. Мы шчасьлівыя, што Бацькаўшчына ізноў сталася арганічнай часткай нашага быту, мрояў, надала большага сэнсу і мэтанакіраванасьці нашым намаганьням. У гэтай супольнасьці — зарука таго, што эканамічная й культурная адбудова Беларускай дзяржаўнасьці будзе ісьці далей.

Мы заклікаем усіх вас, дарагія Суродзічы, да веры ў Беларусь, да патрыятызму, да дзеяньняў у імя свабоднай дэмакратычнай Беларускай дзяржавы. Вера ў свой народ, у ягоныя здольнасьці, у лепшую яго будучыню — гэта вялікая стваральная сіла. У гэтым пераканаліся мы, пражыўшы дзесяцігодзьдзі на чужыне з думкамі пра Родны Край. Вера ў самых сябе, у тое, што з намі Бог, дапаможа нам і цяпер, калі мы разам, супольнымі сіламі выйсьці на шырэйшыя шляхі ў лепшую будучыню.

Жыве Беларусь!

Прынята 10.07.93, г. Менск.

# ПЕРШЫ ЗЬЕЗД

*(Заканчэньне зь 1-й ст.)*

праблемаў — выхад у сьвет (з вынікамі свае працы!), дык раскіданыя па сьвеце суродзічы — гэта й ёсьць тое найважнейшае, што патрэбнае на дадзеным этапе.



*Саўт-Рывэры, Н.Дж., дэлегаты Першага зьезду беларусаў сьвету перад ад'ездам на лётнішча. Фота Надзі Кудасавай.*

Удзел беларусаў сьвету ў адбудове Беларусі, як паказаў Першы зьезд, увайшоў у новую фазу. Сталася гэта



*«Едзем на Бацькаўшчыну!» — сп-ня Рэня Касьцюк не хавае свайго пачуцьця радасьці. Фота Надзі Кудасавай.*

дзякуючы намаганьням былога кіраўніцтва ЗБС «Бацькаўшчына» і Аргкамітэту зьезду (спсп. Я. Лецка, Г. Сурмач, В. Быкаў, П. Краўчанка ды іхныя супрацоўнікі), беларускіх уладаў (рэспубліканскіх, абласных, раённых і мясцовых), а таксама ўсіх да аднаго ўдзельнікаў гэтага вялікага форуму, прычым ня толькі дэлегатаў з блізкага й далёкага замежжа, а й мясцовых: арганізатараў багатых сувэнірамі стэндаў у Тэатры опэры й балету ды ў гасьцініцы «Беларусь», цудоўных выставак, Купальля, турыстычных паездак, наведваньняў гарадоў і помнікаў, галярэяў і ўсяго-ўсяго іншага.

Нельга згадзіцца з тымі, хто кажа, што Першы зьезд беларусаў сьвету быў галоўна падзеяй для замежнікаў, а не для жыхароў Беларусі. На Зьезьдзе было каля тысячы (некаторыя кажуць да 1200) «дэлегатаў». Але калі палічыць усіх, хто меў у той ці іншай форме дачыненьне да гэтай падзеі ў Менску і па-за ім, дык напэўна налічацца тысячы а тысячы людзей. Сотні тысячаў, калі ня больш, тэлегледачоў і радыёслухачоў ды чытачоў прэсы былі пасярэднімі ўдзельнікамі гэтай унікальнай падзеі, рэха якое яшчэ поўнасьцяй не прагучала.

Тымчасам-жа, калі шукаць нейкай сьціслай характарыстыкі таго, што адбылося ў Менску і ў рэспубліцы на працягу сёлетняга ліпеня, дык найлепш, бадай, тут падыдуць два словы: *Жыве Беларусь.*

Наступнай важнай падзеяй падобнага характару мог-бы стацца масавы прыезд у Беларусь палітычных эмігрантаў улетку 1994 году, каб гэтым адзначыць 50-годзьдзе выезду з Бацькаўшчыны.

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ

**аб прынцыпах нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва**

Першы зьезд беларусаў сьвету адбываецца ў год сьвяткаваньня 75-х угодкаў абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Дзеячы БНР распачалі працэс практычнага адраджэньня беларускай дзяржаўнасьці. Цяпер стварыліся рэальныя ўмовы для яго пасьпяховага завяршэньня. 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўны Савет прыняў, а 25 жніўня 1991 г. надаў сілу Канстытуцыйнага закону «Дэклярацыі аб незалежнасьці Беларусі».

Гэтыя акты стварылі юрыдычны падмурак для адбудовы новай беларускай дзяржавы на прынцыпах незалежнасьці, дэмакратыі, павагі да правоў асобы і права беларускага народу на нацыянальнае адраджэньне.

Рэалізацыі гэтай спрадвечнай мары беларусаў у цяперашніх умовах спрыяюць як унутраныя, так і міжнародныя абставіны. Таталітарная сацыяльна-палітычная сыстэма ў Беларусі аб'ектыўна вычарпала свае магчымасьці і ня мае гістарычнай пэрспэктывы. На абсягах былой савецкай імпэрыі распачаліся працэсы сувэрэнізацыі, нацыянальнага і эканамічнага адраджэньня многіх народаў. Гэтыя працэсы павінны набыць незваротны характар. Толькі пры ўмове дакладнага разуменьня асаблівасьцяў гістарычнай сытуацыі ўсімі палітычнымі сіламі грамадзтва зьявяцца падставы для нацыянальнага аб'яднаньня дзеля сумеснай працы на карысьць нашай Бацькаўшчыны, яе палітычнага, гістарычнага і культурнага адраджэньня.

Мы, удзельнікі Першага зьезду беларусаў сьвету, бачым будучыню вольнай, дэмакратычнай Беларусі як унітарнай, прававой, бязьядзернай дзяржавы, якая праводзіць палітыку міру і ўзаемакарысных добрасуседзкіх адносін з усімі краінамі сьвету, якая мае разьвітую эканоміку, заснаваную на розных формах уласнасьці, гарантуе сваім грамадзянам агульнапрызнаныя правы чалавека і клапоціцца пра стварэньне спрыяльных умоў для разьвіцьця культуры беларускага народу, якая прызнае найвышэйшаю мэтаю дасягненьне агульнага дабра і сацыяльнай справядлівасьці ў грамадзтве.

Мы лічым, што распачаць гэтую агромістую працу можа і павінен новы парлямэнт, абраны на падставе дэмакратычнага закону, які створыць умовы для аб'ектыўнага волевыяўленьня народу. Улічваючы небясьпечны стан эканомікі і відавочную няздольнасьць сёньняшняй улады ажыцьцявіць карэнныя і хуткія палітычныя і эканамічныя рэформы, якія-б разьняволілі творчую актыўнасьць народу, мы заклікаем народных дэпутатаў Вярхоўнага Савету Беларусі прысьпешыць новыя выбары. Цяперашні склад Вярхоўнага Савету прыняў шэраг прынцыпова важных рашэньняў і ўжо па гэтай прычыне застанецца ў гісторыі Беларусі. Але дзеля дабра нашага народу і захаваньня ўласнай годнасьці ён мусіць зрабіць апошні адказны крок — забясьпечыць канстытуцыйны і мірны шлях да пабудовы сапраўды незалежнай і заможнай Беларускай дзяржавы. Такі шлях ёсьць — гэта правядзеньне рэфэрэндуму, за які выказаліся каля 440 тыс. грамадзян Беларусі. Грамадзкая згода і супрацоўніцтва — гэта тыя каштоўнасьці, якія павінны быць захаваны.

Найважнейшы прынцып адбудовы беларускай дзяржаўнасьці — правядзеньне палітыкі нэўтралітэту. Імкненьне да гэтага зафіксавана ў Дэклярацыі аб незалежнасьці. Таму няма падстаў для далучэньня да якіхнебудзь ваенных саюзаў. Права на нэўтралітэт Беларусь выпакутавала і акупіла нязьлічонымі ахвярамі ў многіх войнах.

Свабода — гэта найважнейшая каштоўнасьць. Толькі свабода, падмацаваная сваёй дзяржаўнасьцю, стварае ўмовы для самарэалізацыі ўсіх патэнцыяльных магчымасьцей наогул. Мы жывём у час, калі гэтая адвечная мара беларусаў можа быць зьдзейсьнена. Будзем-жа годнымі ўскладзенай на нас лёсам высокай місіі!

Жыве Беларусь!

Прынята на Першым зьезьдзе беларусаў сьвету. 10.07.93, г. Менск.

## ЗВАРОТ

**да парлямэнту і ўраду Рэспублікі Беларусь**

Мы, удзельнікі Першага зьезду беларусаў сьвету, бачым асноўную мэту нашага супольнага дзеяньня ў кансалідацыі нацыі дзеля духоўнага, дзяржаўнага і эканамічнага адраджэньня нашай Бацькаўшчыны. Тыя з нас, хто жыве па-за межамі Беларусі, хацелі-б пачуваць сябе неад'емнаю часткаю беларускага народу і ведаць, што Радзіма для ўсіх сваіх дзяцей зьяўляецца роднаю маці. Доўгія гады значная частка беларускай дыяспары была адлучана ад Бацькаўшчыны і мы спадзяемся, што гэтыя змрочныя часы незваротна мінулі. Рэспубліка Беларусь, як самастойная, цывілізаваная дзяржава, павінна стаць апораю і надзеяю для ўсіх беларусаў у сьвеце, дзе-б яны ні жылі. Мы заклікаем дзяржаўныя ўлады Рэспублікі Беларусь, а таксама грамадзкія арганізацыі і рухі, спрыяць ажыцьцяўленьню гэтай сьвятой справы.

На працягу трохдзённай працы зьезду яго ўдзельнікамі былі выказаны прапановы, просьбы, пажадань-

*(Працяг на 3-й ст.)*

## ВІЗЫТ СТ. ШУШКЕВІЧА

*(Заканчэньне зь 1-й ст.)*

рыкі (СіБіэС, эНБіСі і ЭйБіСі), а таксама такіх вялікіх газэт, як «Нью-Ёрк Таймс», «Вашынгтон Пост», «Лёс-Анджэлес Таймс» ды іншых. Ці гэта было вынікам таго, што беларускае пасольства не разаслала загадзя прэсавага камунікату? Ці ў гульню ўвайшлі, апрача гэтага, іншыя фактары?

Беларусы Амэрыкі былі расчараваныя ня толькі блізу поўнай адсутнасьцяй у амэрыканскіх сродках інфармацыі рэпартажоў пра прыезд беларускае дэлегацыі і вынікі перамоваў, але й тым, што ня спраўдзіліся спадзяваньні на даўжэйшы побыт сп. Шушкевіча ў Амэрыцы і сустрэчу зь ім у беларускіх асяродках. Перададзеныя сп. Шушкевічу запросіны на такія сустрэчы застаюцца актуальнымі як і само спадзяваньне на ягоны паўторны прыезд у Амэрыку, магчыма ў якасьці прыватнага наведніка.

**Я. З.**

## УСЕБЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ

Напярэдадні Першага зьезду беларусаў сьвету, 6 ліпеня сёлета, адбылася ў Менску ў тэатры імя Я. Купалы 3-я Ўсебеларуская палітычная канфэрэнцыя. У ёй узялі ўдзел дэмакратычныя партыі Беларусі і прадстаўнікі беларускай эміграцыі. З прамовамі й дакладамі перад люднай аўдыторяй канфэрэнцыі выступілі В. Быкаў, З. Пазьняк, А. Сідарэвіч, Я. Запруднік, А. Трусаў, А. Дабравольскі, В. Голубеў, Я. Лугін і інш. Удзельнікаў канфэрэнцыі віталі, сярод іншых дэлегатаў, і спсп. Лужынскі (Аўстралія), Р. Завістовіч (ЗША), Г. Русак (ЗША), В.Рамук (ЗША).

Канфэрэнцыя прыняла тры рэзалюцыі («Аб палітычным становішчы ў Беларусі», «Аб дзяржаўным і канстытуцыйным ладзе РБ» і «Аб рашэньнях Бэрлінскай палітычнай нарады 1925 году»).

У першых дзьвюх рэзалюцыях дадзеная ацэнка сучаснаму палажэньню ў Беларусі і запрапанаваныя шляхі выхаду з крызісу, у трэцяй — сьцьверджана, што ў 1925 годзе ня было спыненьня юрыдычнай цягласьці Рады БНР, што й сёньня «Рада БНР павінна працягваць сваю дзейнасьць да таго часу, пакуль у Рэспубліцы Беларусь на падставах дэмакратычнага выбарчага закону ня будуць праведзеныя выбары ў новы парлямэнт, пакуль ня будзе прынятая дэмакратычная Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, пакуль у краіне не ўсталюецца палітычная й эканамічная дэмакратыя, пакуль зь Беларусі ня будуць выведзеныя ўсе замежныя войскі».

## «БЕЛАРУСЬ — МАДЭЛЬ ДЛЯ ЎКРАІНЫ»

**Ад Рэдакцыі:** *Пад вышэй пададзеным загалоўкам газэта «Нью-Ёрк Таймс» (4.08.93) зьмясьціла рэдакцыйны артыкул, які перадрукоўваем ніжэй поўнасьцяй.*

Адміністрацыя Прэзыдэнта Клінтана пачынае рабіць прагрэс у раззбройваньні новых ядзерных рэспублік былога Савецкага Саюзу. Беларусь хуткім тэмпам становіцца бязьядзернай і пажынае адпаведныя ўзнагароды. Бачачы гэта, і аб'ёмная Ўкраіна пачала раззбройвацца. Гэтага павінна хапіць для Вашынгтону, каб пачаць узнагароджваць таксама і Ўкраіну.

Праўда, ракеты СС-19, якія Ўкраіна дэактывізуе, хутка стаюцца ненадзейнымі, пагражаючы больш беспасярэдняму навакольлю, чымся якім-небудзь іншым мясьцінам. Праўда таксама, што Ўкраіна тымчасам кажа, што яна раззбройвае толькі адзін полк, узброены дзесяцьма ракетамі СС-19, кожная з шасьцю ядзернымі баегалоўкамі, і раззброіць яшчэ адзін полк у верасьні. Пакуль Украіна не дасягне пагадненьня з Расеяй і Злучанымі Штатамі, яна адмаўляецца дэактывізаваць свае больш магутныя ракеты СС-24; гэткіх ракетаў у яе 46, на кожнай зь якіх да 10 баегаловак. Не зважаючы на гэтую адмову, ЗША робяць правільна, прызнаючы Ўкраіне 175 мільёнаў даляраў, каб памагчы раззброіцца.

Праніклівыя ўкраінцы ведаюць, што гэтыя грошы — дый іншыя конча патрэбныя формы дапамогі й інвэстыцыяў — не паплывуць, калі Ўкраіна ня пойдзе далей па шляху раззбраеньня. І яны пачынаюць разумець, што калі Ўкраіна застанецца ядзернай, яна будзе эканамічна зьбедненай і палітычна ізаляванай — карацей кажучы, менш забясьпечанай.

Дзякуючы сваечасовым захадам Клінтанавай адміністрацыі, Беларусь можа паслужыць мадэльлю для Ўкраіны. Прэзыдэнт Клінтан асабіста прыняў лідэра Беларусі Станіслава Шушкевіча, першага дзяржаўнага кіраўніка з маладых экс-савецкіх рэспублік, якога ён запрасіў у Белы Дом. Украінскі Прэзыдэнт Леанід Краўчук, бадай, возьме гэта на ўвагу.

Сп. Шушкевіч не ад'ехаў з пустымі рукамі. Ён падпісаў пагадненьне аб атрыманьні 59 мільёнаў даляраў дапамогі, з 65-х мільёнаў даляраў, абяцаных яму сёлета. У гэта ўвайшла сума на запрактаванае ачышчэньне аднае зь беларускіх ракетных базаў і канвэрсію яе для цывільнага выкарыстаньня. Частка фондаў пойдзе на жыльлёвае будаўніцтва для афіцэраў, што абслугоўвалі базу.

Гэта асабліва адпаведная форма амэрыканскае дапамогі, бо яна памагае Беларусі выйсьці зь ядзернае справы ды заняцца чымсьці больш прадукцыйным для сваіх людзей, як прыкладам адбудовай эканомікі.

## ДАКУМЭНТЫ ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ

*(Працяг з 2-й ст.)*

ні, скіраваныя на вырашэньне праблем беларусаў замежжа па задавальненьню іх культурных, жыцьцёвых і іншых патрэбаў. За кожным словам, выказаным на зьездзе, стаяць лёсы жывых людзей, нашых суродзічаў. Асабліва ўскладнілася жыцьцё многіх беларусаў у краінах блізкага замежжа з-за нестабільнасьці палітычнай і эканамічнай сытуацыі. Ня маюць трывалых сувязяў з Радзімаю і беларусы з заходняй дыяспары. Большасьць з гэтых пытаньняў ня можа быць вырашана без удзелу дзяржаўных уладаў Рэспублікі Беларусь, якія сёньня павінны нясьці на сабе абавязак клапаціцца пра краіну і яе народ.

Выказваючы наша агульнае пажаданьне, даводзім да ведама парлямэнту і ўраду Рэспублікі Беларусь наступныя канкрэтныя прапановы па ўсталяваньню ўсебаковых сувязей зь беларусамі замежжа і аказаньню дапамогі беларускай дыяспары:

1. Спрыяць дзейнасьці грамадзкіх арганізацый, якія ладзяць сувязі зь беларускім замежжам, стварыць роўныя ўмовы іх падтрымкі з боку дзяржавы.

2. Адкрыць прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь ва ўсіх краінах, дзе ёсьць беларуская дыяспара; пры прызначэньні афіцыйных прадстаўнікоў улічваць меркаваньні на гэты конт мясцовай беларускай дыяспары.

3. Выкарыстоўваць асоб зь беларускай дыяспары як ганаровых консуляў, віцэ-консуляў і консульскіх агентаў Рэспублікі Беларусь у краінах іх пражываньня згодна зь Міжнароднай Венскай канвэнцыяй аб консульскіх зносінах 1963 году.

4. Разглядаць беларускую дыяспару як спрыяльны чыньнік для ўладкаваньня добрых адносін з краінамі, дзе жывуць беларусы; ствараць у іх грамадзка-інфармацыйныя цэнтры і гандлёвыя прадстаўніцтвы.

5. У двухбаковых пагадненьнях з краінамі, дзе жывуць беларусы, прадугледзець абавязковыя гарантыі абароны іх правоў і задавальненьня нацыянальна-культурных патрэб згодна з Гэльсінскімі пагадненьнямі і іншымі міжнароднымі дакумэнтамі па правах чалавека.

6. Мэтанакіравана аказваць дапамогу беларусам замежжа ў адкрыцьці беларускіх культурна-асьветных цэнтраў, рэлігійных храмаў, школ, бібліятэк, музэяў; развіцьці пэрыядычнага друку, радыё- і тэлевяшчаньня; забясьпечыць сыстэматычны абмен неабходнай для замежных беларусаў рэтраспэктыўнай і бягучай інфармацыяй паміж Беларусьсю і краінамі, дзе жывуць беларусы.

7. Разглядаць беларускія грамадзкія згуртаваньні па-за межамі Беларусі, як асяродкі беларускага нацыянальнага жыцьця, аказваць ім рознабаковую дапамогу, у тым ліку і матэрыяльную.

8. Забясьпечыць магчымасьць для беларусаў замежжа падпіскі на пэрыядычныя і падпісныя выданьні, што выходзяць у Беларусі.

9. Пашырыць тэхнічныя магчымасьці рэдакцый Беларускай тэлерадыёкампаніі, якія вядуць вяшчаньне на беларускае замежжа.

10. Надаваць статус найбольшага эканамічнага спрыяньня прадпрыймальнікам беларускага паходжаньня з эміграцыі, якія жадаюць прыняць удзел у вырашэньні эканамічных праблем нашай краіны (пры заключэньні кантрактаў, набыцьці маёмасьці, стварэньні сумесных прадпрыемстваў на Беларусі і г. д.).

11. Садзейнічаць беларусам замежжа ў атрыманьні адукацыі на Беларусі, прымаць іх на вучобу ў навучальныя ўстановы на ільготных умовах па хадайніцтву беларускіх суполак замежжа. Ладзіць адукацыйны абмен між навучальнымі ўстановамі Беларусі і краін, дзе жывуць беларусы, з удзелам беларусаў замежжа.

12. Выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі дзеля падключэньня лепшых інтэлектуальных сіл беларускай дыяспары пры вырашэньні праблем духоўнага і эканамічнага адраджэньня Бацькаўшчыны. Разглядаць асоб беларускай дыяспары як магчымых дарадчыкаў, кансультантаў і спэцыялістаў па адпаведных праблемах ва ўрадавых установах Рэспублікі Беларусь.

13. Распрацаваць і прыняць Закон Рэспублікі Беларусь аб мігрантах і бежанцах, стварыць адпаведную дзяржаўную структуру.

14. Забясьпечыць умовы для жадаючых вярнуцца на Радзіму асоб беларускай дыяспары (першачарговае перад іншымі перасяленцамі выдзяленьне ці продаж зямельных участкаў, беспрацэнтных грашовых пазык, стварэньне іншых матэрыяльных выгод).

15. Прадугледзець спрошчаную працэдуру наданьня беларускага грамадзянства асобам беларускай дыяспары, якія прыехалі ў краіну на сталае жыхарства.

16. Аднавіць беларускае грамадзянства тым беларусам замежжа, якія мелі яго да прыняцьця Закону аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь і ня маюць грамадзянства тых краін, дзе яны жывуць цяпер.

17. Устанавіць бязьвізавы рэжым уезду ў Беларусь для беларусаў блізкага замежжа.

18. Удзяляць асаблівую ўвагу праблемам беларусаў у рэгіёнах спрадвечнага пражываньня беларускага этнасу (Віленшчына, Беласточчына, Смаленшчына, Браншчына, паўночная Чарнігаўшчына), якія цяпер уваходзяць у склад суседніх краін. Выканаць у адносінах да іх прапановы, выказаныя на Першым зьезьдзе беларусаў блізкага замежжа.

19. Міністэрству замежных спраў выкарыстоўваць беларускую лацінку пры афармленьні замежных пашпартаў і іншых неабходных дакумэнтаў міжнародных зносін.

20. Падтрымаць ініцыятыву Навукова-асьветнага Цэнтру імя Скарыны і Выдавецтва Беларускай энцыклапэдыі аб выданьні энцыклапэдычнага даведніка «Беларускае замежжа», стварыць для гэтага ў структуры Цэнтру спэцыяльны аддзел.

21. Вырашыць пытаньне аб рэабілітацыі замежных беларусаў — ахвяраў сталінскіх рэпрэсій і аб выплаце ім адпаведнай кампэнсацыі.

22. Заключыць пагадненьні аб рэгулярным інфармацыйным абмене з тэлебачаньнем Украіны, Літвы, Латвіі, Польшчы, Расіі з улікам патрэб беларускай дыяспары і нацыянальных меншасьцей у Беларусі.

23. Аказаць неадкладную дапамогу віленскім беларусам у іх намаганьнях па аднаўленьні Віленскай беларускай гімназіі і Музэю імя І. Луцкевіча.

24. Аказаць падтрымку Згуртаваньню беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» ў выданьні газэты для беларусаў замежжа.

25. Дзеля забесьпячэньня патрэб вернікаў як у Беларусі, так і па-за межамі аказаць дапамогу ў справе перакладу і выданьня Сьвятога Пісаньня на беларускай мове.

26. Аказаць дапамогу ў вырашэньні такога важнага пытаньня для беларусаў на Беласточчыне, як вяртаньне праваслаўнай царкве ў Польшчы Супрасьльскага Сьвята-Благавешчанскага манастыра згодна з воляю фундатараў яго залажэньня.

Удзельнікі зьезду даводзяць да ведама парлямэнту і ўраду думку пераважнай большасьці ўдзельнікаў зьезду аб неабходнасьці вырашэньня наступных пытаньняў, якія маюць агульнанацыянальнае значэньне:

— абвясьціць дзяржаўным сьвятам 25 Сакавіка — дзень абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі;

— спыніць выкарыстаньне гімну былой БССР у якасьці дзяржаўнага гімну Рэспублікі Беларусь, прысьпешыць зацьвярджэньне новага гімну, які павінен адпавядаць нацыянальным ідэалам беларускага народу;

— вярнуць сталіцы Рэспублікі Беларусь г. Мінску яго гістарычную назву — Менск.

Прынята 10.07.93, г. Менск.

**На газэту «Беларус» можна падпісацца ў Менску, пішучы на адрас:** «Тэхналогія», вул. Магілёўская, 43, офіс 104; тэл./акс: 21-77-40

# «АД ЗАХОДНЯЙ ДЫЯСПАРЫ»

### ПРАМОВА ЯНКІ ЗАПРУДНІКА НА ПЕРШЫМ ЗЬЕЗЬДЗЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Паважаны Прэзыдыюм, Паважаныя Спадарыні й Спадары, Дарагія Суродзічы!

Беларусь дачакалася часу, калі ейныя сыны й дочкі ды іхныя дзеці, зьехаўшыся з цэлага сьвету, могуць наладжваць узаемныя сувязі, свабодна абмяркоўваць праблемы Бацькаўшчыны, супольна шукаць выйсьця зь вельмі складанага становішча, у якім апынулася адноўленая беларуская дзяржава. Мы ўдзячныя за гэта Богу, беларускім уладам, а таксама тым працавітым кіраўніком і сябром ЗБС «Бацькаўшчына» (Яўгену Лецку, Ганьне Сурмач, Леаніду Казыру, Лідзіі Савік ды іхным супрацоўнікам), руплівасьцяй якіх быў падрыхтаваны гэты гістарычны зьезд. З усіх цярністых шляхоў, у тым ліку з выгнаньня на Захадзе, беларусы вяртаюцца да самых сябе. Бацькаўшчына стаецца адным цэлым арганізмам, узмацняе свае шанцы выжыць, перамагчы, прабіцца да дабрабыту.

Выступаючы тут як рэдактар газэты «Беларус» і сябра галоўнай управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, паспрабую адказаць на пытаньне: што-ж мы, выгнанцы, прыносім з сабою з далёкіх дарог чужыны, з Захаду, як свой набытак, сваё дазнаньне, каб падзяліцца ім са сваім народам? А прыносім мы найперш і найбольш любасьць да роднага краю, якая дапамагла нам выжыць, захавацца як частцы свайго народу, каб сёньня ў цяжкім лёсавызначальным мамэнце далучыцца да яго ды разам працаваць на будучыню.

Мы, ураджэнцы Беларусі, стаўшыся грамадзянамі розных заходніх дзяржаў, прайшоўшы няпростае выпрабаваньне чужынай і бальшацкай прапагандай, вярнуліся ў свой родны край як довад таго, что беларусы здольныя выжыць і застацца самымі сабою, захаваць вернасьць сваім каранём у самых няспрыяльных абставінах.

Тое, чаго мы дарабіліся на Захадзе, не далося нам лёгка. Апынуўшыся на чужыне, мы пачыналі з нуля як у сэнсе веданьня замежных моваў, гэтак і ў сэнсе матар'яльнага набытку. Нашы сучасныя сьвятыні, народныя дамы, выданьні, нашы дыпляматычныя нашчадкі, нашы сувязі зь дзелавым і палітычным сьветам, усё гэта — плод сыстэматычнае напорнае працы, грамадзкае самаахвярнасьці, нацыянальнае сьведамасьці ды вернасьці ідэалу свабоднай незалежнай Беларусі.

Як і тут, на Беларусі, сярод нас, эмігрантаў, былі й ёсьць розныя палітычныя пагляды, прыналежнасьць да розных рэлігіяў і царкоўных юрысдыкцыяў (гэта натуральна для кожнага дэмакратычнага грамадзтва), але нашым агульным назоўнікам, непарушнай агульнай плятформаю заўсёды заставалася Беларусь, беларуская мова, справа нацыянальна-культурнага адраджэньня і адбудовы беларускае дэмакратычнае дзяржавы. Любоў да свайго народу можа быць вялікай стваральнай сілай. З трох галоўных хрысьціянскіх вартасьцяў — веры, надзеі і любові — любоў ставіцца на першае месца як дынамічны фактар у жыцьці грамадзтва. Любоў да Бацькаўшчыны якраз і памагла нам выжыць, захавацца і вярнуцца цяпер да Айчыны, каб і самым узмоцніцца духам, і яе на духу падтрымаць — тое, пра што тут казаў наш паважаны Васіль Быкаў.

Тэарэтыкі беларускага адраджэньня, як і некаторыя палітыкі ды дзяржаўныя лідэры, правільна гавораць пра важнасьць патрыятызму ў ходзе дзяржаўнага будаўніцтва. А ў сувязі з гэтым прынцыповае значэньне мае ўмацаваньне нацыянальнае сьведамасьці як асновы й вытоку патрыятызму. Калі 50-гадовая гісторыя беларускае эміграцыі на Захадзе сьветчыць пра што-небудзь, дык гэта пра жыцьцятворчую сілу нацыянальнага ідэалу ў жыцьці як індывідуальнага чалавека, гэтак і цэлага народу.

Стаўшыся воляю лёсу выгнанцамі, мы ведалі, што рабіць, каб захавацца, каб забясьпечыць сабе працяг і трывацца. Любоў усяго свайго прывяла нас нарэшце да свайго, і нам цёпла на душы ад усьведамленьня, што мы адзін пра аднаго турбуемся, адзін аднаму рады, адзін з адным гатовыя да супрацоўніцтва, да кампрамісу — ізноў-жа, у імя Беларусі.

Трэба, бязумоўна, разумець, што патрыятызм ня прыходзіць сам сабой да чалавека з аднолькавай лёгкасьцяй. Як кожная культура пачуцьця, патрыятызм вымагае працы. Але да эмігранта патрыятызм прыходзіць лягчэй — як выражэньне болю па страчанай радзіме. Асабліва, калі радзіма становіцца недаступнай, якой яна была для нас на працягу амаль цэлага 50-годзьдзя. Песьня правільна кажа: «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў дальніх краёх пабываць…» А значыцца, для шмат каго, хто не пабываў у тых «дальніх краёх», можа й ня проста быць патрыётам — любіць цэлую краіну і дбаць пра ейнае дабро, калі вельмі цяжка задавольніць свае сьціплыя штадзённыя патрэбы. Цяжкасьці быту змушаюць шмат каго думаць перш-наперш пра асабістыя канкрэтныя патрэбы, патрэбы сям'і, а не пра абстрактныя нацыянальныя інтарэсы. Гэткая засярэджанасьць грамадзяніна на сабе самым зусім зразумелая. І тым ня менш, нам, што прыехалі ў Беларусь упяршыню пасьля даўгое ростані, балюча бачыць яе не такой, якую мы вынасілі ў сэрцах сваіх, пра якую мы гэтулькі гадоў лятуцелі.

Як выяўляецца, Бацькаўшчына таксама ў пэўным сэнсе апынулася на чужыне, і ўнукі ейныя ня здольныя разумець мову дзядоў сваіх. 22-га чэрвеня я глядзеў перадачу Беларускага тэлебачаньня. Цэлую гадзіну шасьцёх ці сямёх высокіх урадаўцаў адказвалі на пытаньні тэлегледачоў, тлумачылі людзям сваю эканамічную праграму. Двое вядучых і частка тэлегледачоў задаюць ім пытаньні па-беларуску, а высокія чыны, усе як адзін, адказваюць упарта па-расейску. І толькі іхнае выразна беларускае вымаўленьне паказвала, што яны, у моўным сэнсе, у чужой хаце. Гэтак і хацелася сказаць ім: спадары міністры, пара пачынаць вяртацца з эміграцыі дамоў! *(Воплескі)* На трэцім годзе Закону пра дзяржаўнасьць беларускае мовы скажэце хоць слоўца на гэтай мове; пакажэце хоць крышачку свае прыхільнасьці да яе; прадэманструйце сваё разуменьне таго, што аднаўленьне эканомікі адбудзецца тым хутчэй, чым хутчэй будзе праведзена адраджэньне беларускае мовы й нацыянальнае культуры. Бо культура й эканоміка непарыўна зьвязаны міжсобку ўзаемадзеяньнем. Бо патрыятызм — гэта пачуцьцё, якое энэргізуе і культуру, і эканоміку. Мы на эміграцыі пераканаліся ў гэтым на ўласным быце.

Але можа ня будзем тут лішне наракаць. Будзьма стоікамі, аптымістамі. На ход гісторыі трэба глядзець як на няўхільнасьць, але трэба адначасна захоўваць і пераканананасьць, што гісторыю робяць людзі; што працэс беларускага нацыянальнага адраджэньня — гэта сума намаганьняў кожнага з нас — кожнага з вас! — паасобку ўзятага; што гістарычнае складаецца са штадзённага, вялікае з малога, як дом з цаглінаў. Кожны з нас — гэта цагліна ў велічным будынку, імя якому Беларуская Дзяржава, Рэспубліка Беларусь. Будаўніцтва яе ідзе паступова наперад, і прыезд усіх нас сюды, прысутнасьць тут — гэта прынцыпова новая фаза ў працэсе гэтага будаўніцтва. Пра гэта трэба ведаць, у гэта трэба верыць.

*(Працяг у наступным нумары)*

# ДАКУМЭНТЫ ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ

*(Працяг з 3-й ст.)*

## ЗАЯВА

### удзельнікаў Першага зьезду беларусаў сьвету па вайсковым пытаньні

Зьезд выказвае сваё вялікае занепакаеньне сытуацыяй, якая склалася ў войску незалежнай БЕЛАРУСІ — адным з найважнейшых дзяржаўных інстытутаў, безь якога, як вынікае з гістарычнага вопыту нашага і іншых народаў, немагчыма гарантаваць самое існаваньне дзяржавы.

Зьезд адзначае, што Беларусь, утрымліваючы за свой кошт непамерна вялізарную збройную сілу, дагэтуль ня мае надзейнага, аддананга справе абароны беларускай дзяржаўнасьці войска. У тых вайсковых адзінках, якія зараз называюць Узброенымі Сіламі Беларусі, пануюць нэгатыўныя пагардлівыя адносіны да яе незалежнасьці і нацыянальнага адраджэньня. Большасьць вайскоўцаў варожа ставіцца да беларускай мовы, ня спыняюцца спробы фальсыфікацыі беларускай гісторыі, асабліва тых яе пэрыядаў, якія зьвязаны з войнамі супраць усходняга дэспатызму. Дагэтуль у вайсковай вопратцы ўжываецца камуністычная імпэрская сымболіка; у войску ня спыняецца, і нават пашыраецца, перасьлед патрыятычна настроеных вайскоўцаў. Шалёнаму цкаванню падвяргаюцца сапраўдныя патрыёты Беларусі, да канца адданыя ідэі беларускай незалежнасьці і Адраджэньня — сябры беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, якія некалі ва ўмовах супрацьдзеяньня з боку асоб, зараз кіруючых беларускімі ўзброенымі сіламі, распрацавалі канцэпцыю стварэньня Беларускага войска і шмат зрабілі для яе прапаганды і рэалізацыі. Кіраўніцтва Міністэрства абароны перашкаджае пераводу на Радзіму афіцэраў-беларусаў. Нізкія маральны стан і дысцыпліна ў войску абумоўлены няздольнасьцю вайсковага кіраўніцтва наладзіць выхаваўчую працу на грунце беларускага патрыятызму.

Зьезд лічыць, што асноўнай прычынай захаваньня такога становішча ў войску зьяўляецца ўрадавая вайсковая палітыка, пры якой на ключавыя пасады ва Ўзброеных сілах прызначаюцца асобы, якія адмоўна ставяцца да незалежнасьці Беларусі, яе адраджэньня і сьвядома перашкаджаюць стварэньню сапраўды беларускага войска.

Зьезд патрабуе ад ураду Беларусі рашучых захадаў па неадкладнай беларусізацыі войска і навядзеньні парадку ў ім. Зьезд таксама патрабуе аднаўленьня на вайсковай службе падпалкоўніка Міколы Статкевіча і іншых адстаўнікоў БЗВ, пакараньня віноўных у іх незаконным звальненьні.

Прынята 10.07.93, г. Менск.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### Першага зьезду беларусаў сьвету «Аб падтрымцы дзейнасьці Згуртаваньня беларусаў сьвету 'Бацькаўшчына'»

Першы зьезд беларусаў сьвету, які зьяўляецца адначасна і зьездам ЗБС «Бацькаўшчына», заслухаўшы справаздачу Рады Згуртаваньня і прымаючы пад увагу, што «Бацькаўшчына» была асноўным арганізатарам зьезду, пастанаўляе:

— ухваліць намаганьні ЗБС «Бацькаўшчына» па арганізацыйным і духоўным ядnaньні беларусаў сьвету, па наладжаньні сувязей з грамадзка-культурнымі суполкамі беларускага замежжа і аказаньні ім усебаковай дапамогі;

— лічыць неабходным прадаўжаць дзейнасьць ЗБС у абраным кірунку, пашыраць і ўзбагачаць яе новымі формамі;

— дзеля арганізацыйнай падтрымкі дзейнасьці ЗБС лічыць мэтазгодным утварэньне суполак «Бацькаўшчыны» ў беларускіх асяродках у замежжы;

— праводзіць чарговыя зьезды беларусаў сьвету пэрыядычнасьцю раз у чатыры гады;

— даручыць Управе Рады ЗБС «Бацькаўшчына» апублікаваць матэрыялы Першага зьезду беларусаў сьвету і Сходу беларусаў блізкага замежжа асобным выданьнем.

Прынята 10.07.93, г. Менск.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### Першага зьезду беларусаў сьвету «Аб падтрымцы беларускай рэдакцыі Радыё 'Свабода'»

Амаль 40 гадоў гучыць беларускі голас на хвалях Радыё «Свабода». Ён прыходзіў да слухача на Беларусі, ня гледзячы на глушэньне і іншыя перашкоды, якія тварыліся таталітарнаю сыстэмаю.

Сёньня Беларусь цьвёрда стала на шлях незалежнасьці, аднак поўнай дэмакратыі яшчэ няма. Таму свабодная інфармацыйная крыніца патрэбна нашаму народу.

Мы, прадстаўнікі беларускага грамадзтва, выказваем сваю падтрымку інфармацыйнай дзейнасьці Беларускай службы Радыё «Свабода» і лічым неабходным прасіць прадоўжыць яе ў далейшым дзеля пабудовы дэмакратычнай беларускай дзяржавы.

Прынята 10.07.93, г. Менск.

*(Працяг на 8-й ст.)*

### ПРА БЕЛАРУСЬ У НОВАЙ КНІЗЕ

У амэрыканскім выдавецтве Орыкс выйшла ілюстраваная кніга пра нова незалежныя дзяржавы Эўразіі:

The Newly Independent States of Eurasia. Handbook of Former Soviet Republics. By Stephen K. Batalden and Sandra L. Batalden. Phoenix, AZ: The Oryx Press. 224 p.

У кнізе кожнай з новых дзяржаваў былога СССР прысьвечаны асобны раздзел, у якім пададзеныя гісторыя, геаграфічнае апісаньне, карта і статыстычныя дадзеныя.

Цана кнігі: 34,95 дал. Тэл.: 1-800-279-6799.

## ПРАМОВА СП. РАСЬЦІСЛАВА ЗАВІСТОВІЧА, СТАРШЫНІ БЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСАВАГА КАМІТЭТУ АМЭРЫКІ на Першым зьезьдзе беларусаў сьвету ў Менску 8.07.1993

Паважаныя суродзічы! Дарагая беларуская сталіца! Добры дзень Беларусь!

Пятнаццацігадовым хлапчуком жорсткі лёс пазбавіў мяне Бацькаўшчыны. За апошнія 50 гадоў я прайшоў вялікі жыцьцёвы шлях ад прымусовага рабочага ў гітлераўскай Нямеччыне да жаўнера амэрыканскага войска і, нарэшце, да кіраўніка інжынернага аддзелу амэрыканскага прадпрыемства. Мне даводзілася бываць у розных краінах і сталіцах сьвету, але я ніколі ня меў шчасьця быць у Менску. Я тут упяршыню. Усёю сваёю істотаю я адчуваю нявымерную радасьць з таго, што мне, нарэшце, было суджана пабыць на той зямлі, дзе пачалося маё жыцьцё, дзе босым малым хлапчуком я бегаў у лес па грыбы і ягады, падскакваючы ад холаду раньняе расы. Сталася нечаканае. Усявышні Бог адчыніў дзьверы нашае Бацькаўшчыны, любасьць да якой я праношу ў сваім сэрцы праз усё сваё жыцьцё.

Ад імя Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі вітаю вас, дарагія суродзічы — удзельнікі гэтае нашае Ўсебеларускае Сустрэчы.

Беларускі народ перажывае эканамічны, палітычны і культурны крызіс, які сёньня агарнуў усю нашую Бацькаўшчыну. Але, мне здаецца, самым страшным крызісам — хваробаю нашае нацыі зьяўляецца духовая і нацыянальная абыякавасьць. Многія нашыя людзі саромеюцца мовы сваё маці, бо мова гэтая ім здаецца простаю, някультурнаю, як некалі казалі, мужычаю. Мы, зразумела, павінны з пашанаю адносіцца да ўсіх моваў сьвету, мы не павінны ставіцца з пагардаю ні да якое мовы. Дык чаму-ж тады мы цураемся тае мовы, якою Бог узнагародзіў нашых продкаў, мовы, якою размаўлялі і пісалі нашыя вялікія папярэднікі, мовы нашых гістарычных дзяржаўных мужоў і пяшчотных вясковых беларускіх бабулек? Чаму-ж, скажэце, нам павінна быць менш культурнай мова гродзенскай, менскай, альбо магілёўскай бабулькі ад мовы тамбоўскага, разанскага, альбо, нарэшце, варшаўскага селяніна? Не, даражэнькія, вы толькі прыслухайцеся да беларускае гаворкі, адчуйце прыгажосьць і мілагучнасьць нашае беларускае мовы, і яна вам раскажа пра наш гаротны, але таленавіты народ, народ, якога крыўдзілі браты-славяне — нашыя заходнія і ўсходнія суседзі, якіх ён гэтак шчодра адбарыў талентамі сусьветнае славы. Пакрыўдзіўшы нашую Бацькаўшчыну, гісторыя не дала магчымасьці беларускаму разьвіцьцю талентаў Дастаеўскага, Міцкевіча, Глінкі, Шастаковіча — людзей, продкі якіх выйшлі зь зямлі беларускай. Уявеце сабе, які-б гэта быў гонар, каб «Браты Карамазавы» альбо «Дзяды» былі напісаны на беларускай мове — роднай мове іх аўтараў. Я, зразумела, не абвінавачваю гэтых аўтараў за тое, што яны свае творы пісалі на чужых мовах. Крый Божа! Я скарджуся на наш лёс, які, адабраўшы волю нашага краю, спрычыніўся да гэтага, зрабіў нас падсуседзямі ў сваёй хаце. Я скарджуся на нашую гістарычную пасыўнасьць, якая прывяла была нас да страты нашай дзяржаўнасьці, нацыянальнай сьвядомасьці, на тое, што гэтая пасыўнасьць цягнецца да сёньняшняга дня. Каб гэтага ўсяго ня сталася, мы цяпер ня шукалі-б самых сябе, не глядзелі-б, куды нам прыткнуцца, а цьвёрда бачылі-б свой шлях, свае мэты і не саромеючыся-б верылі ў сваю нацыю, у сваю беларускасьць.

Усім, напэўна, вядома, што наш вялікі суродзіч, але польскі паэт Адам Міцкевіч, пішучы сваю паэму «Пан Тадэуш», у якой адлюстроўваецца народнае жыцьцё Наваградчыны, Бацькаўшчыны паэта, і якую ён пісаў у эміграцыі, зь вялікім замілаваньнем гаворыць пра Беларусь, зьвяртаючыся да яе як да «Літвы» — старою гістарычнаю назваю нашае краіны. Я дазволю сабе прачытаць некалькі першых радкоў з гэтае паэмы ў сваім перакладзе.

*Радзіма Літва! Як тое здароўе ты мне дарагая,*
*Наколькі цаніць цябе трэба, толькі той адчувае,*
*Хто страціў цябе. Прыгажосьць тваю бачу я вечна жывую,*
*І пішу пра цябе я, па табе я заўсёды сумую.*

Я, мабыць, не памылюся, калі скажу, што гэтакае пачуцьцё да свае Радзімы мае кожны эмігрант. Яно, аднак, ня ёсьць пачуцьцём нейкай духовай прыгнечанасьці, безнадзейнасьці. Наадварот, яно ёсьць самым высокім праяўленьнем любасьці да свае Бацькаўшчыны, нейкай такой здаровай ідэалізацыяй роднага краю. Бо-ж любіць свой край, свой народ, верыць у яго, верыць у тое, што ён пройдзе праз усе гістарычныя выпрабаваньні, паўстане зь цяжкасьцяў, ня зважаючы на ліслівіць яму, альбо хаваць яго слабыя бакі. Сапраўдны патрыёт вучыцца на палітычных памылках свайго народу, на яго гісторыі, на яго шчасьці і яго няўдачах.

Каб усім нам прыдбаць ганаровае імя патрыётаў Беларусі, ёсьць у чым павучыцца. Напрацягу ўсяго свайго жыцьця мы ў эміграцыі інфармавалі заходні сьвет пра Беларусь і яе народ, стараліся стварыць сяярод чужынцаў пачуцьцё прыхільнасьці да нашай Бацькаўшчыны. Я ўпэўнены, што наша праца не прайшла незаўважанай на Захадзе. На жаль, яна была, мне здаецца, неналежна ацэнена ўрадам Рэспублікі Беларусь, бо ён у сваіх пастановах пасьпяшыў выкрасьліць замежных беларусаў зь ліку грамадзян Беларусі. Дзякуючы таму, што ў большасьці з нас падыход да адраджэньня нашай Бацькаўшчыны быў чыста альтруістычным, мы не пакідаем свае працы на карысьць Беларусі, не зьвяртаючы ўвагі на выкрэсліваньні. Гэтак і зараз мы хочам, каб гэтае нашае спатканьне дапамагло нам зрабіць новы крок у адраджэньні нашай Бацькаўшчыны, бо яна для ўсіх нас адна! Няхай адраджаецца беларуская сьвядомасьць! Няхай кожны з нас адчуе гонар за сваю мову, культуру, нашую ні з чым непараўнальную спадчыну. Давайце палюбім самых сябе, адродзім сваю незалежнасьць, зробім сваю Бацькаўшчыну сапраўды сувэрэннай дзяржавай і, словамі нашага паэта Міхася Кавыля, выкажам пачуцьцё шчырага замілаваньня да свае любае Беларусі:

*Край красы, Беларусь-чараўніца,*
*Песьняў хто пра цябе не пяяў!*
*Ў забыцьці мне цябе не забыцца,*
*І ў магіле ты будзеш мне сьніцца,*
*Сінявокая ўцеха мая.*

Прысылайце нам выразкі з заходняга друку з матар'яламі пра Беларусь. Будзем удзячныя! — **Рэдакцыя «Беларуса».**

## РОЗДУМ НАД ПОБЫТАМ У МЕНСКУ

Першы тыдзень ліпеня, праведзены ў Менску, пачаўся пад добрым знакам сьв. літургіі, якую адслужыў у катэдральным Сьвятадухавым саборы Яго Высокапрэасьвяшчэнства Мітрапаліт Менскі й Слуцкі Філарэт. Ён законьчыў багаслужбу малітваю аб заступніцтве да сьв. Сафіі Слуцкае і ўсіх сьвятых зямлі Беларускай. Пасьля літургіі быў адслужаны малебен перад іконай Менскае Божае Маці.

Людзі гаварылі з ухвалаю пра выступленьне Мітрапаліта Філарэта колькі дзён перад маім прыездам на сьвяткаваньні 200-годзьдзя Менскае епархіі, на якім Уладыка прамаўляў па-беларуску. Мне цікава было давeдацца, што на сьвяточным банкеце з нагоды 200-годзьдзя Міністар замежных спраў сп. Пётр Краўчанка падняў тост за аўтакефалію Беларускай Праваслаўнай Царквы ў прысутнасьці Старшыні Вярхоўнага Савету і Мітрапаліта.

Зьдзіўляючым стаўся факт шырока адчыненых дзьвярэй для дыяспары. На гэта спатрэбілася сьмеласьць, якая, думаецца, будзе поўнасьцяй узнагароджана. У тэатры опэры й балету бадай усе гаварылі па-беларуску. Асноўнае з таго, што гаварылася, штавечару перадавалася па беларускім тэлебачаньні.

На маю думку, ключавым матывам прагучэлі словы Старшыні ВС Шушкевіча, які сказаў, што «прыналежнасьць да Беларусі — не этнічная, а духоўная, палітычная якасьць». На працягу тыдня багацьце духоўнасьці было пацьверджанае ў шмат якіх маментах. Традыцыйная талерантнасьць, якою гэтак выразна пазначанае жыцьцё беларускае дыяспары, зрабіла свой уплыў і на мысьленьне ў Беларусі.

Адзін з прамоўцаў з эміграцыі сказаў на адчыненьні Зьезду, што «патрыятызм — гэта праца». Эміграцыя гатовая працаваць, каб дапамагчы Беларусі, і прадэманстравала ўжо сваю гатовасьць і здольнасьць да такой дапамогі, дзелячыся з Бацькаўшчынай тэхналёгіяй і прафэсіянальнымі ведамі. Хоць, бязумоўна, будучыня Беларусі знаходзіцца ў руках ейных грамадзянаў. Сытуацыя застаецца складанай у сувязі з палітычным профілем парлямэнту ды формамі ціску з боку «старэйшага брата» ў галіне палітыкі й эканомікі.

Паўсюдна — на Зьездзе, на вуліцах, у магазіна і музэях — былі відавочныя талент, фантазія, творчыя здольнасьці. Выстаўка «Жыве Беларусь!» была проста надзвычайнай сваім багацьцем стыляў і тэхнікі. Наведаньне са сп-ня Галінай Русак аднае меншае галярэі, каб паглядзець творы маладога мастака, што спэцыялізуецца ў выцінанках, а пасьля — візыт у Музэй этнаграфіі й фальклёру былі выдатнымі мамэнтамі дня. А Музэй гісторыі беларускае літаратуры на Траецкім прадмесьці — дзівоснае відовішча. Аформлены зь вялікім густам і веданьнем справы, ён даў зыркае азнаямленьне з дваццатымі й трыццатымі гадамі.

Прысутнасьць на багаслужбах, адслужаных а. Вячаславам у гарадзкім Цэнтры спорту й атлетыкі і а. Янам у капліцы каля катэдральнага сабору, была для мяне ўзрушальным досьведам. Абодвы гэтыя каталіцкія сьвятары служылі поўнасьцяй па-беларуску, па-беларуску гаварылі свае казані, і прыхаджане сьпявалі па-беларуску.

Удзел у адчыненьні Скарынаўскага цэнтру ў будынку, дзе калісьці мясьціўся Інбелкульт; выступленьне праф. Адама Мальдзіса і іншых выдатных дзеячоў літаратуры й культуры; беражліва сабраныя і акуратна раскладзеныя на сьвяточных сталох, разам з тлумачэньнямі, у выдавецтве «Беларусь» эміграцыйныя выданьні — усё гэта пакінула сьветлыя незабыўныя ўражаньні.

Прыемна было быць у Міністэрстве інфармацыі на ўрачыстасьці прэзэнтацыі кнігі Вітаўта Кіпеля «Беларусы ў ЗША» (выдавецтва «Беларусь», 1993) і бачыць, зь якім зацікаўленьнем і якой радасьцю гэтая праца была ўспрынятая, а таксама быць на цырымоніі перадачы ад ньюёркскага Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва 400 фунтаў эміграцыйных кніг і часапісаў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Цёплыя ўспаміны выклікаюць у мяне таксама часіны, праведзеныя з Алексам Сільвановічам, зь якім мы ўзаемна дзяліліся багацьцем уражаньняў, назіраньняў і асэнсоўваньнем усяго бачанага й чутага у цудоўным горадзе Менску сярод прыязных людзей, багатых душою і заклапочаных заўтрашнім днём.

**Том Бэрд**

## ГВАЛТ НАД АЛЕГАМ БЕМБЕЛЕМ

Алег Бембель (паэтычны псэўданім — Зьніч) жыве зь сям'ёй у доме свайго нябожчыка бацькі, народнага мастака Беларусі, Андрэя Бембеля па вул. Якуба Коласа, 29а. Дом быў пабудаваны калісьці Андрэю Бембелю замест зьнесенага жылога дому-майстэрні, уладальнікам якога ён быў. Дакумэнты, якія пацьвярджаюць гэты факт, знойдзеныя ў чэрвені 1993 году.

Цяпер Саюз мастакоў Беларусі (старшыня Г. Буралкін) намагаецца судовай дарогай адабраць ад сына ягоную законную маемасьць пад прэтэкстам, што ў будынку будзе створаны музэй беларускай нацыянальнай скульптуры. Прэтэнзія гэта недарэчная, бо пад музэй беларускай нацыянальнай скульптуры патрэбен будынак куды большы і адпаведна расплянаваны. Затое зусім мэтазгодна было-б стварыць у аспрэчваным доме, як гэта і прапануе сын Алег, мэмарыяльны музэй-майстэрню імя Андрэя Бембеля. Ідэю гэтую падтрымаў цэлы шэраг дзеячоў культуры, у тым ліку др. В. Шматаў, В. Быкаў, М. Савіцкі, В. Грамыка, П. Панчанка, М. Танк, В. Зуёнак, М. Барысевіч, А. Марачкін, А. Бяляцкі і іншыя.

Але судовыя ўлады рэспублікі й Менску, груба парушаючы правы законнага спадкаёмцы дому па вул. Я. Коласа, 29а, на пачатку ліпеня сёлета яшчэ не адмовіліся былі ад свайго намаганьня высяліць гвалтам Алега Бембеля зь сям'ёй зь ягонага ўласнага дому. У кампанію супраць Алега Бембеля ўключыліся, як гэта ні дзіўна, і некаторыя сродкі масавай інфармацыі. Прыкладам, радыёпраграма «Панарама» ў перадачы 22 чэрвеня сёлета падала тэндэнцыйнае насьвятленьне Бембелевае справы не на карысьць уласьніка дому. Няўжо судовыя ўлады рэспублікі яшчэ ўсё помсьцяць Алегу Бембелю за ягонае іншадумства ў застойныя часы, калі ягоная кніга ў абароне беларускае мовы, «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», выйшла ў Лёндане ў 1985 годзе і за якую ейны аўтар быў сурова пакараны? Цяпер, калі ў Беларусі робіцца першыя крокі на ўмацаваньне прыватнай уласнасьці, пазбаўленьне Алега Бембеля ягонага ўласнага дому станецца чорнай плямай на абліччы рэспублікі. Беларуская дзяржава гэтага аніяк не патрабуе, якраз тады, калі яна пачынае выходзіць у цывілізаваны сьвет.

# КАНФЭРЭНЦЫЯ «РЫМ-4» У ГОРАДНІ

Ад 27-га чэрвеня па 2-га ліпеня ў Горадні адбывалася міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная вывучэньню гісторыі народаў Рэчы Паспалітае: беларусаў, палякаў, літоўцаў і ўкраінцаў. У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел навукоўцы з панад 10-х краінаў колькасьцю каля 200 асобаў. Беларусаведныя дасьледнікі былі зь Беларусі, Украіны, Расеі, Летувы, Чэхіі, Польшчы, Швайцарыі, Ангельшчыны і са Злучаных Штатаў (амэрыканская дэлегацыя ўлучала сп-ню Зору Кіпель, др. Янку Запрудніка, др. Вітаўта Кіпеля, праф. Томаса Бэрда ды госьцю сп-чню Алесю Кіпель).

прысьвечаны абмеркаваньню падручнікаў, у якіх насьвятляецца гісторыя Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. Наступныя тры працоўныя дні, на якіх было прачытана каля сотні дакладаў, праца вялася ў сэкцыі «Гістарычныя аспэкты праблемы» (беларускія дакладчыкі: др. Янка Запруднік, праф. Анатоль Грыцкевіч, др. Сямён Падкошын, праф. Іван Крэнь, дац. Валянцін Грыцкевіч, праф. Леанід Ціханаў, др. Вітаўт Кіпель і загадчык Інстытуту біялёгіі Горадзенскага ўнівэрсытэту праф. Андрэй Майсяёнак) і сэкцыі «Тэарэтычныя аспэкты праблемы». Тут выступіла каля паўсотні



*Прыемная сустрэча з паэткай Данутай Бічэль-Загнетавай (пасярэдзіне); каля яе стаяць (зьлева): Вітаўт Кіпель, Алеся Кіпель, Зора Кіпель, Янка Запруднік.*
***Фота Ўладзіміра Выдэркі.***

Канфэрэнцыя «Рым-4» — чацьвертая ў цыклі канфэрэнцыяў, якія пачаліся ў Рыме ў 1990 годзе. Мэтай іх было глыбейшае вывучэньне супольнае дзяржавы чатырох народаў — Рэчы Паспалітае (беларусаў, палякаў, літоўцаў і ўкраінцаў) з мэтай выпрацаваньня агульна прынятых ацэнак мінуўшчыны ды ўлучэньня іх у школьныя падручнікі.

На канфэрэнцыі ў Рыме (дзе, дарэчы, упяршыню сустрэліся на працоўных сэсіях беларускія дасьледнікі-эміграніы з калегамі зь Беларусі і Польшчы) было пастаноўлена, што наступныя канфэрэнцыі гэтага цыклю будуць адбывацца на бацькаўшчынах. Гэтак, канфэрэнцыя ў 1991 годзе адбылася ў Любліне, у 1992 годзе — у Каменец-Падольску, сёлетняя — у Горадні, а ў 1994 годзе канфэрэнцыя адбудзецца ў Троках у Літоўскай Рэспубліцы.

Арганізатарамі сёлетняе канфэрэнцыі ў Горадні былі: Гродзенскі дзяржаўны ўнівэрсытэт імя Янкі Купалы, Міжнародная Асацыяцыя Беларусістаў і «Рымскі камітэт» Нацыянальнага Навукова-асветнага цэнтру імя Францішка Скарыны. А кіравала канфэрэнцыяй працоўная група беларускіх дасьледнікаў на чале з праф. Адамам Мальдзісам.

Паседжаньні канфэрэнцыі пачаліся прывітаньнямі, зь якімі выступілі прадстаўнікі ўраду Рэспублікі Беларусь: міністры адукацыі Віктар Гайсёнак, замежных справаў Пётр Краўчанка і культуры Яўген Вайтовіч, старшыня камісіі па адукацыі й культуры ВС Беларусі Ніл Гілевіч, старшыня Горадзенскага аблвыканкаму Дзьмітры Арцыменя, Віцэ-прэзыдэнт АН Беларусі Радзім Гарэцкі, кіраўнікі дэлегацыяў: праф. Адам Мальдзіс (Беларусь), праф. Юозас Тумяліс (Летува), праф. Ежы Клачоўскі (Польшча), акад. Яраслаў Ісаевіч (Украіна) і др. Вітаўт Кіпель, старшыня БІНіМ (ЗША).

Першы дзень канфэрэнцыі быў вучоных, улучна з навукоўцамі з дыяспары (даклад праф. Томаса Бэрда) ды каля 20-х навукоўцаў зь Беларусі. Паседжаньні трэйцяга дня канфэрэнцыі канцэнтраваліся на праблемах вывучэньня Рэчы Паспалітае ды рэгіянальных асаблівасьцяў беларусаў, украінцаў, палякаў і летувісаў.

Вельмі шырокадыяпазоннай была сэкцыя, прысьвечаная гісторыі культурнага разьвіцьця беларусаў і іншых народаў Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў гэтай сэкцыі зрабіла даклад сп-ня Зора Кіпель, а сярод іншых дакладчыкаў-беларусаў былі Ўладзімер Конан, Павел Сьцяцко, Вячаслаў Рагойша, Тамара Суднік, беларусаведы з па-за Беларусі Лола Званарова, Вацлаў Жыдліцкі, Марыя Прышляк, а ад беларускіх навукоўцаў зь Беласточчыны праф. Аляксандр Баршчэўскі.

У часе канфэрэнцыі былі зладжаныя вельмі цікавыя экскурсіі па Горадні: удзельнікі наведалі Музэй імя Багдановіча, былі ў некалькіх бібліятэках і музэях, мелі сустрэчы са студэнтамі, а таксама адбылася паездка ў этнаграфічны беларускі музэй у мясцовасьці Гудзевічы, дзе этнограф і настаўнік Алесь Белакоз зладзіў вельмі цёплае прыняцьцё.

У часе канфэрэнцыі адбылася ўрачыстасьць наданьня ганаровых дактаратаў ініцыятарам гэтых канфэрэнцыяў: др. Вітаўту Кіпелю (БІНіМ, ЗША), праф. Ежаму Клачоўскаму (Люблінскі ў-т, Польшча), акад. Яраславу Ісаевічу (Львоў, Украіна) і др. Вітаўтасу Мяркісу (Каўнас, Летува).

Атрымоўваючы ад рэктара Горадзенскага ўнівэрсытэту праф. А. Бадакова дыплём, др. Вітаўт Кіпель сваю падзяку выказаў гэтак: «Для мяне гэта вялікі гонар, што мой адукацыйны цыкль закругляецца на бацькаўшчыне. Гэты цыкль пачынаўся некалі ў Менску, у дзіцячым садку на беразе Сьвіслачы, а сёньняшняя падзея адбываецца над Нёмнам. Сёньня я вярнуўся на Беларусь. Праўда, у маім адукацыйным працэсе былі сьвятлейшыя й цямнейшыя часіны, але выдатных падзеяў было бясспрэчна дзьве: першая, калі ў 1955 годзе я меў гонар атрымаць доктарскі дыплём з галіны геалёгіі й мінэралёгіі ад аднаго з старэйшых унівэрсытэтаў сьвету, Лювэнскага Каталіцкага Ўнівэрсытэту, што быў заснаваны ў 1525 годзе, і падзея сёньняшняя, калі я атрымваю дыплём ад маладзейшага ўнівэрсытэту мае Бацькаўшчыны — Горадзенскага Ўнівэрсытэту імя Янкі Купалы. Калі мой першы дыплём быў за вузкую, але новую галіну дасьледваньняў, дык мой сёньняшні дыплём я разглядаю як-бы падсумаваньнем праробленае шырокае працы для Беларусі па-за Беларусяй. І я ганаруся, што ад сёньня і мая Бацькаўшчына для мяне таксама — мая Альма Матэр».

# У ПОШУКАХ ЭМІГРАНЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Каб растлумачыць загаловак, трэба было-б вярнуцца дзесятак гадоў з гакам назад, калі, працуючы ў Ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы, я надумалася пачаць улік усіх беларускіх выданьняў на эміграцыі — пэрыёдыкі, кніжак, брашураў, адозваў, паштовак ды іншага.

Паступова сабралася ладная картатэка. Спачатку ўлічвалася што было пад рукамі, пасьля пачалося ліставаньне з асобамі, якія мелі добрыя прыватныя калекцыі. Вялікай дапамогай тут былі спсп. Віталі Кажан, Браніслаў Даніловіч, Кастусь Мерляк, Барыс Данілюк, сьв. памяці ўжо Часлаў Будзька, Аляксандар Калодака і Мікола Скабей з Аўстраліі ды шмат іншых.

Паездка ў Лёндан у Скарынінскую бібліятэку ды сустрэча са сп. Аляксандрам Лашуком яшчэ больш узбагацілі картатэку, якая ўсё расьце й расьце — аж ня верыцца, што гэтак шмат выдалася празь якія 50 гадоў на эміграцыі. Картатэка, якая цяпер налічвае прыблізна 320 назоваў пэрыёдыкаў і панад 500 кніжок, уведзеная ў камп'ютар, і розныя дадаткі й папраўкі робяцца лёгка й проста.

У часе працы паўстала й другая задума: ня толькі ўлічваць эмігранцкую літаратуру, але, па магчымасьці, і зьбіраць камплеты пэрыёдыкаў і ўсе выдадзеныя кнігі.

Вось з гэтай мэтай і пачаліся нашыя (Зоры і Вітаўта Кіпеляў) вандроўкі да суродзічаў, якія маюць прыватныя калекцыі беларускай эмігранцкай літаратуры.

Першым гэткім выездам быў візыт да сп-ва Тулейкаў у паўдзённае Ньюджэрзі вясной сёлета. Сп. Тулейка мае добрую калекцыю беларускай пэрыёдыкі ад канца 40-х гадоў да раньня публікацыі арганізацыйнага пэрыяду БАЗА. Усё было акуратненька падрыхтавана. Не ўзяло нам шмат часу, каб перагледзець, што ёсьць, чаго не хапае. Сп-ва Тулейкаў былі вельмі шчодрыя і прапанавалі ўсё, што нам было патрэбна для ўкамплектаваньня калекцыі. Вярталіся, як кажуць, з поўнымі рукамі.

У пачатку чэрвеня меліся мы ехаць на гадавую канфэрэнцыю славістаў у Канаду, якая сёлета адбывалася ў Атаве. Рашылі выкарыстаць гэтую паездку ды прынагодна наведаць Клíўленд і колькі мясьцін у Канадзе.

У Кліўлендзе перагледзелі архівы Кастуся Калошы і Сяргея Карніловіча — знайшлі шмат публікацыяў мясцовага аддзелу БАЗА.

Бібліятэка Міхася Белямука — вельмі багатая й добра арганізаваная — была вялікай дапамогай да ўкамплектаваньня недастаючых нумароў шмат якіх пэрыёдыкаў. Асабліва цікавымі былі публікацыі беларускага скаўтынгу ў Нямеччыне. Сп. Белямук зрабіў для нас шмат патрэбных копіяў і прыабяцаў зрабіць больш у выпадку, калі ня знойдзем нідзе інакш, бо зьбіраліся-ж мы наведаць гаспадароў яшчэ колькіх добрых калекцыяў у Канадзе, перш за ўсё ў Таронта.

Па дарозе ў Таронта завіталі да сп-ва Шустоў, зь якімі мы знаёмыя яшчэ з Бэльгіі. Зь вялікай прыемнасьцю пагасьцілі ў іхнай мілай сям'і, пачаставаліся рыбай злоўленай мясцовымі індыйцамі ў возеры, палюбаваліся Шустовымі вырабамі з саломкі, падзяліліся ўспамінамі аб Бэльгіі, пагутарылі аб паездцы на Беларусь, адкуль Мікола Шуст кагадзе быў вярнуўшыся.

У Таронта перш-наперш наведалі бібліятэку Ўладыкі Мікалая. Гэта хіба найлепшая, добра ўпарадкаваная прыватная беларуская калекцыя. Тут было колькі знаходак. Няведамы нам дагэтуль часапіс «Бээнэравец» першы і адзіны, наколькі ведама, нумар якога выйшаў у Таронта у 1954 годзе; камплет вельмі рэдкага часапісу «Праваслаўны Беларус», які выходзіў у Варшаве ў сярэдзіне 20-х гадоў. Уладыка падзяліўся з намі дублікатамі са сваёй калекцыі, якіх нам не даставала. Гэтаксама ўдалося ўдакладніць канфліктныя даты ў часапісе «Царкоўныя Навіны» за 1986 год.

Наступным прыпынкам была гасьцінная хата сп-ва Пашкевічаў. Тут мы правялі шмат часу, дыскутуючы з Валяй Пашкевіч розныя праблемы апрацаванага ёю Ангельска-беларускага слоўніка, які цяпер у друку ды перагледзелі іхную багатую, цікавую, унікальную калекцыю. Знайшлі гэтта і таго самага «Бээнэраўца» у двух ці трох экзэмплярах; адным сп. Пашкевіч ахвотна падзяліўся з намі. Яшчэ адна знаходка — першы нумар рукапіснага часапісу «Meta», які выходзіў у Нямеччыне ў Ольдэнбургу ў 1946-47-х гадох. Якраз-жа мы гэтага першага нумару й ня мелі. Пасьля сямейнай нарады сп-ва Пашкевічы ласкава даравалі гэты нумар для ўкамплектаваньня нашых збораў. Гэтаксама атрымалі мы і шмат дублікатаў, і нават ня дублікатаў. Гэткага шчодрага супрацоўніцтва мы й не спадзяваліся і шчыра ўдзячныя за яго.

Па дарозе ў Атаву заехалі да сп. Антона Маркевіча — у яго знайшлі крыху разрозьненых выданьняў «Пагоні». Бальшыню сваёй калекцыі ён перадаў у Манрэаль.

Варта гэтта заўважыць, што, на вялікі жаль, у гэтую паездку не змаглі наведаць сп. Кастуся Акулу — да яго яшчэ трэба будзе спэцыяльна прыехаць.

У сп-ні Ольгі Грыцук знайшлі колькі патрэбных недастаючых публікацыяў.

Нарэшце ў Атаве ў сп-тва Сурвілаў напаткалі цікавыя экзэмпляры беларускай выдавецкай дзейнасьці ў Мадрыдзе, асабліва паштовак 50-х гадоў. Гэтаксама даведаліся шмат інфармацыі аб выдавецтве Я. С. (Янка Сурвіла), якое існавала ў лягеры Ватэнштэт у другой палове 40-х гадоў.

Пераглядаючы пасьля прыезду ўсе запісы і матар'ялы, яшчэ больш захапляешся і тым, што тварылася на эміграцыі, і тымі людзьмі, што гэта тварылі, зьбіралі, перахоўвалі. Як важна гэта ўсё ўлічыць, сабраць — каб не загубілася.

**Зора Кіпель**

*З жыцьця ў Кліўлендзе*

## ДЗЕНЬ МАЦІ

Штагоду беларуская калёнія ў Кліўлендзе ўрачыста адзначае Дзень Маці, калі выказваецца падзяка маткам за іхнюю вялікую ахвярную працу, праробленую на працягу году як у сямейным, так і грамадзкім жыцьці. Так і сёлета прафіяльная рада прыходу Жыровіцкае Божае Маці БАП Царквы наладзіла 9 траўня прыняцьцё.



*Радасныя ўдзельніцы сьвяткаваньня Дня Маці ў Кліўлендзе. Фота К. Калошы.*

Пасьля сьв. Літургіі быў адпраўлены малебен за матак калёніі і тых, што на Бацькаўшчыне. У канцы службы прат. Міхась Страпко зазначыў, што беларускія маткі шмат пережылі пры ўзгадоўваньні сваіх дзяцей у часе вайны і за часамі камунізму ды пажадаў ім усяго найлепшага.

Затым адбыўся пачастунак у царкоўнай залі, дзе прыгатоўвалі і абслугоўвалі матак мужыкі, сыны, дочкі і ўнукі. Гасьціна прадаўжалася ў добрым і вясёлым настроі. У канцы старшыня парафіяльнае рады Сяргей Карніловіч прывітаў матак зь іхнім днём, падзякаваў за іхнюю працу ды пажадаў добрага здароўя маткам і сем'ям. Гераіням дня ўручылі прыгожыя вазоны кветак.

Вельмі добра, што парафіяльная рада ўшаноўвае матак, бо яны ў нашай калёніі запраўды на гэта заслугоўваюць.

**К. П.**

---

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## СУСТРЭЧА ЗЬ ЯЎГЕНАМ ЛЕЦКАМ

Беларусы Адэляйды мелі прыемнасьць сустрэчы з гасьцём зь Беларусі сп. Яўгенам Лецкам, старшынём Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына». Прыляцеў ён з Масквы у Аўстралію першым рэйсам Масква-Сыднэй расейскай авіякампаніі «Аэрафлот», а да нас прыбыў 25 траўня. На наступны дзень у прыцаркоўнай залі быў арганізаваны супольны пачастунак у гонар гасьця. Сп. М. Колес, старшыня Беларускага Аб'яднаньня, прадставіў сп. Лецку, расказаў пра ягоную пасаду, а. М. Бурнос блаславіў ежу, а сп. Уладзімір Акавіты, старшыня парафіяльнае рады, падняў тост за гасьця, якому прапяялі «Многая лета».



*На сустрэчы са сп. Я. Лецкам. У першым радзе сядзяць (зьлева): У. Акавіты, М. Колес, Я. Лецка, а. М. Бурнос.*

Сп. Лецка выступіў з шырокай інфармацыяй пра палітычны і эканамічны стан Беларусі, адказаў на пытаньні ў сувязі зь Першым зьездам беларусаў сьвету. Ён раздаў таксама прысутным бел-чырвона-белыя сьцяжкі і беларускія календары.

Гаспадары перадалі паважанаму наведніку падарунак, а таксама сабралі 260 даляраў на дарогу.

У сыботу 29-га сп. Лецка адляцеў у Сыднэй, а 1-га чэрвеня — у Менск.

Было вельмі добра пагаварыць з гасьцём зь Беларусі, які мог адказаць на многія пытаньні.

**У. Акавіты**

---

## М. БЕЛЯМУК — ГАНАРОВЫ СЯБРА ІНСТЫТУТУ ГІСТОРЫІ АН БЕЛАРУСІ

Вучоная рада Інстытуту гісторыі АН Беларусі пастановаю ад 25 траўня сёлета надала сп. Міхасю Белямуку званьне ганаровага сябры Інстытуту «за навуковую распрацоўку пытаньняў сфрагістыкі, геральдыкі, складаньне збору манэнта-рэчавых скарбаў IX-XI стст. з тэрыторыі Беларусі, актыўную дзейнасьць па распаўсюджваньню ведаў па беларускай гісторыі, уклад у справу выданьня гістарычнага часапісу 'Полацак'».

Міністар замежных спраў РБ сп. П. Краўчанка, а таксама сябры менскага грамадзка-асьветніцкага клюбу «Спадчына» прыслалі сп. Белямуку пісьмовыя віншаваньні (гл. «Полацак» № 5/25). Газэта «Беларус» таксама віншуе сп. М. Белямука з атрыманым званьнем ды жадае далейшых удачаў на ніве беларускай гістарыяграфіі.

---

*Зь беларускага жыцьця*

## БЭЛЭР-МЕНСК

У Кетскільскіх горах, у Рэлігійна-Адпачынковым Цэнтры Бэлэр-Менск сёлета адбыліся:

3 ліпеня — адкрыцьцё 30-га летняга сэзону, а 4 ліпеня традыцыйны «Дзень Беларускага Жаўнера». Сьвятую Літургію і малебен за Беларускі Народ адслужыў а. Віталі. Прыгожа пеў хор пад кіраўніцтвам сп. Віталя Цярпіцкага. Пасьля адбыўся пікнік. Вэтэраны ў сваім гурце правялі гутарку аб цяперашняй сытуацыі на Беларусі і аб кансалідацыі сваёй далейшай працы.

31 ліпеня і 1 жніўня адбылася 29-я з чаргі Сустрэча Беларуска-Амэрыканскай Моладзі. Зьехалася моладзь з Кліўленду, Нью-Ёрку, Саўт-Рывэру, Нью-Брансьвіку, з далёкага штату Віскансын і з другіх мясьцін расьсяленьня беларускае эміграцыі.

Лёгкую атлетыку правялі спраўна і ўмела нашыя беларускія маладзенькія студэнткі: Грэйс Потаст, Лора Рагалевіч, Тэрэса Юхнік і Нэнсы Захаркевіч. Падчас вечарыны яны-ж і раздалі ўдзельнікам здабытыя спартовыя ўзнагароды. Валейбол праводзіўся тройкамі. Першае месца з чатырох троек здабылі: Альгерд Кажура, Стыў Махнач і Майк Рагалевіч. Да позьняй ночы моладзь весялілася з радасьці супольнага спатканьня і са здабытых і нездабытых перамог.

Найлепшым спартоўцам сустрэчы, удастоеным узнагароды ў памяць Івана Мухі, быў Джэйсан Махнач. На Міс Спорту была выбрана Юля Горынь.

8 жніўня адбыўся фэст — сьвяткаваўся Дзень Смаленскае Іконы Божае Маці, у імя Якое і пасьвячана капліца. Літургію і малебен адслужыў настаяцель саўтрывэрскага прыходу а. Мячыслаў Брынкевіч. Хорам з пачуцьцём кіраваў рэгент Андрэй Такаюк. Многалецьце для ўсіх бэлэраўскіх працаўнікоў, прыгожая пропаведзь на евангельскую тэму і заклік а. Мячыслава да супольнай працы для дабра рэсорту — каб гэты так прыгожы куточак беларускай зямлі і надалей быў месцам адпачынку для будучых беларускіх пакаленьняў — улілі ўсім прысутным шчыры і бадзёры настрой.

Адбыўся міжпарафіяльны пікнік, бо ў гэты дзень і ў Рычмонд-Гіле ў царкве сьв. Кірылы Тураўскага ня было Божай службы.

У залі беларускі артыст сп. Валеры Окунь, зь невялічкай часткай свае мастацкае групы, даў канцэрт, які складаўся з музыкі ды беларускіх народных песьняў і жартаў.

**М. С-ка**

---

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## ВЕЧАР ВОЛЬГІ ІПАТАВАЙ

На пачатку чэрвеня беларускі Нью-Ёрк меў нагоду пазнаёміцца зь беларускай пісьменьніцай Вольгай Іпатавай, якая, знаходзячыся ў працоўнай паездцы — разам з кінаапэратарам Валерыяй Скварцовай — рабіла фільм з жыцьця беларускае Амэрыкі. 12-га чэрвеня ў Фундацыі імя П. Крэчэўскага адбыўся літаратурны вечар пісьменьніцы.



*Вольга Іпатава на сустрэчы зь беларусамі Нью-Ёрку.*

Вольгу Іпатаву прадставіў аўдыторыі старшыня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва др. Вітаўт Кіпель, які адзначыў асаблівасьці яе біяграфіі й творчасьці, а потым пісьменьніца прачытала некалькі сваіх новых ды ранейшых твораў. В. Іпатава і В. Скварцова пазнаёмілі аўдыторыю таксама з плянамі кінэматаграфічнае студыі што да жыцьця беларускіх эмігрантаў.

---

## "GWIAZDA POLARNA" ПРА БЕЛАРУСЬ

Выдаваная ў ЗША польская газэта «Палярная зорка» зьмяшчае час ад часу добра напісаныя матар'ялы пра Беларусь аўтарства Ўладзімера Брылеўскага, аднаго з даўных супрацоўнікаў і газэты «Беларус». Цікавы допіс сп. Брылеўскага быў зьмешчаны ў «Палярнай зорцы» (19.06.93) аб выказваньнях Міністра замежных спраў Беларусі П. Краўчанкі пра польскага графа Прушынскага, які выстаўляе сваю кандыдатуру на прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Сп. Краўчанка сказаў, што пакольки сп. Прушынскі «не грамадзянін Беларусі, дык і кандыдатуры свае на прэзыдэнта рэспублікі выставіць ня зможа». У допісе дапушчаная памылка ў тэксьце. Пра ўражаньні сп. Прушынскага ад падарожжа па Беларусі трэба чытаць: «А ягоныя ўражаньні былі *для яго* хутчэй за ўсё сумныя» (у тэксьце памылкова напісана: «для мяне хутчэй за ўсё сумныя»). «Сумныя» яны былі, бо сп. Прушынскі «спаткаў сваіх аднагодкаў равесьнікаў, якія ўжо не размаўлялі зь ім, як калісьці, па-польску, а па-беларуску».

Дарэчы, той самы граф Прушынскі прапагандаваў сваю кандыдатуру на беларускага прэзыдэнта і на Першым зьезьдзе беларусаў сьвету (прадэманстраваў пры гэтым сваю няздольнасьць гаварыць па-беларуску), але ніхто ягонае кандыдатуры паважна ня ўспрыняў.

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

*Ахвяраваньні*

| | |
|---|---|
| Др. У Набагез | ам. д. 500 |
| Др. М. Смаршчок | 200 |
| Ф. і В. Бартуль | 200 |
| К. Вайцяхоўскі | 50 |
| Др. Я. Запруднік | 50 |
| В. і З. Кіпель | 50 |
| У. і Н. Русак | 50 |
| А. Шукелойць | 20 |
| А. Міцкевіч | 20 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| А. Дубяга | 20 |

**«ПОЛАЦАК» № 5(25), 1993**

На 64 ілюстраваных старонках зьмест:

С. Белая — Беларусь, твой народ сустракаецца...; С. Тарасаў — Полацкая эпіграфіка X-XV стст.; І Масько — Вэнгерскі дукат XV ст. у зборы Нацыянальнага музэю Беларусі; М. Белямук — Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў; Л. Лыч — Беларускае замежжа: гісторыя і сучаснасьць; Пратакол допыту К. Езавітава; Л. Мірачыцкі — Жыцьцё для Айчыны: эмігранцкі лёс Л. Геніюш; В. Супрун — Ларысе Геніюш; Р. Барадулін — Беларускім паэтам на чужыне; Я. Юхнавец — Паэт беларускі, ці іншыя...; М. Кавыль — Із агню да ў полымя; А. Шукелойц — Скарбы Менскіх праваслаўных цэркваў; Успаміны Я. Ціхановіча; С. Белая — Віленскія беларусы расказваюць; з жыцьця беларускай эміграцыі.

**«ГОЛАС ЧАСУ» № 25(4), 1993**

На 42 старонках зьмест:

А. Міранові — Ікона Божай Маці ў Бельску Падляшскім; А. Б-чык — Адны аднаўляюць камуністычныя партыі, другія зьбіраюць сілы і доказы, каб камуністычную намэнклатуру і ідэялёгію судзіць; Падляшук — Вось табе і «воля», Беларусь...; Лонданскі — Ці-ж гэта голас народу і Бога? А. Баханчык — Старажытнаму Нясьвіжу 770 гадоў; Н. Сцяжко — Па залах музэю А. Белакоза; А. Баханчык — «Маршал Конеў схлусіў»; Ю. Сьвяржынскі — Галасы аб «Вялікай айчыннай вайне» і ўдзел у ёй савецкіх і польскіх партызан; Ю. Хахолка — Вачамі праўды; Ф. Кушаль — Аб гэтым трэба памятаць; Ю. Весялкоўскі — Кароткія ўспаміны (пра П. Навару); Н. Сцяжко — Хай стане тэатр часьцінкай жыцьця...; Ю. Сьцяпанаў — Весткі зь Віцебшчыны; хроніка, выпісы з друку.

**На беларускія радыяперадачы ў Пэрце ахвяравалі:**

| | |
|---|---|
| Марыя і Міхась Мігал (Тасманія) | дал. 100 |
| Піліп і Ванда Дарэўскія (З.А.) | 100 |
| Аўгень і Сьвятлана Ніжнік (З.А.) | 50 |

Усім ахвярадаўцам Б.Р.К. выказвае шчыры беларускі дзякуй!

**ПАДЗЯКА АД ШКОЛЫ № 131 ЗА ДАПАМОГУ**

У 401-м нумары «Беларуса» была зьмешчаная справаздача пра дапамогу менскай школе № 131. Намесьнік дырэктара школы сп. Сяргей Зянькоў прыслаў у рэдакцыю «Беларуса» ліст, у якім, між іншага, піша, што атрыманыя грошы «дапамогуць стварыць сапраўдныя куткі беларускасьці ў хсьценах нашай школы і паспрыяюць выхаваньню ў дзетак пачуцьця любові да роднай Бацькаўшчыны. Грошы школе перадаў ініцыятар гэтай дапамогі праф. Джым Дынглі. Сп. Дынглі ў міжчасе атрымаў яшчэ ахвяраваньні ад наступных асобаў і ўстановаў:

| | |
|---|---|
| Беларускі Дабрадзейны Фонд у Лёндане | анг. ф. 100 |
| А. Лашук (Лёндан) | 250 |
| Хв. Кажаневіч (Манчэстэр) | 10 |
| С. Нарушэвіч (Аўстралія) | 100 |

***НОВЫЯ КНІГІ***

**Вітаўт Кіпель. БЕЛАРУСЫ Ў ЗША.** Менск, выд. «Беларусь», 1993. 352 ст. Ілюстрацыі.

Праца выйшла пад грыфам Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк) і Нацыянальнага Навукова-асьветнага Цэнтру імя Ф. Скарыны (Менск). Пераклад з ангельскае Сяргея Шупы.

У кнізе ўсебакова разглядаецца гісторыя й сёньняшні дзень беларускае дыяспары ў Злучаных Штатах Амэрыкі, паказваецца яе роля ў амэрыканскім жыцьці й неадлучнасьць ад беларускае нацыі й культуры.

**Раіса Жук-Грышкевіч. ЖЫЦЬЦЁ ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА.** Таронта, Канада, выд. Фонду Ўспамінаў зь Беларускага Жыцьця, 1993. 797 ст. Ілюстрацыі.

Як сказана ўва «Ўводзінах», «Гэта больш за ўсё ўложаны амаль у храналягічным парадку няпоўны збор дакумэнтаў з жыцьця й дзейнасьці Вінцэнта Жук-Грышкевіча, ягонае спадчына». Частка матар'ялаў (лісты, мэмарыялы, даклады) зьмешчаная ў ангельскай мове.

**Jan Zaprudnik. BELARUS: AT A CROSSROADS IN HISTORY.** Boulder, CO: Westview Press, 1993. 278 p. Illustrations. Published in cooperation with the Nationality and Siberian Studies Program of the Harriman Institute, Columbia University.

Палавіна кнігі прысьвечана пэрыяду гісторыі Беларусі ад самых пачаткаў да 1985 году; у другой палавіне разглядаюцца праблемы перабудовы, нацыянальнага адраджэньня і дзяржаўнага будаўніцтва Рэспублікі Беларусь.

**СЬВ.†ПАМ. ЛЕНА МІНАЙЛА**

**25.8.1921 — 18.6.1993**

Пасьля цяжкай хваробы памерла ў Мюнхэне ў Нямеччыне.
Вечная сьветлая памяць па Табе, мая дарагя Сястра.

**Іра, Янка, Канстанцін Юхнавец**

## СЬВ.†ПАМ. УЛАДЗІМІР БЫЧКОЎСКІ



Пражыўшы 63 гады, можна сказаць, раптоўна адыйшоў ад нас сьв. пам. Уладзімір Бычкоўскі. Нейк сумна робіцца, калі бачыш, як людзі, у поўні жыцьцёвай энэргіі, не дажыўшы паўнаты веку, па волі Божай заканчваюць свой зямны шлях.

Нябожчык пакінуў у суме жонку Зосю, сына Джыма, дачок Кацярыну і Гэлену, сястру Вольгу, братоў Сяргея і Лявона, бацьку Сяргея. Здавалася-б, толькі жыць у такой глыбокаспаянай і музыкальна адоранай сям'і.

Пакойны Валодзя нарадзіўся на Мазыршчыне, у гэтым куточку прыгожай беларускай зямлі, да якога ў сваім чуткім сэрцы цяпліў неабмежаваную любоў і адданасьць. І цяпер, калі арганізоўвалася паездка ў Беларусь, ён хацеў ехаць, але толькі няўмольная хвароба не дала яму магчымасьці зьдзейсьніць задуму.

Падчас вайны апынуўся з бацькамі ў Нямеччыне. Пасьля вайны ў беларускім лягеры Міхэльсдорфе вучыўся ў беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Па некаторым часе ў Аргентыне, жыцьцёвы шлях прывёў яго ў Саўт-Рывэр. Было прыемна свяім часам слухаць у залі Шакаў выступленьні на канцэртах брата Валодзі і сястры Мальвіны, якія выконвалі беларускія і аргентынскія песьні. Ажаніўся. З Зосяй вырасьцілі прыгожую сям'ю: дзьве дачушкі і сына.

Любіў артыстаў і людзей зьвязаных з артыстычным жыцьцём, і яны былі частымі гасьцьмі ў яго гасьцінным доме. Нават і ў Менск дайшла вестка аб хваробе. Падчас Зьезду беларусаў сьвету пры спатканьні з артыстамі, якія былі ў Саўт-Рывэры, заўсёды ставілі пытаньне: як чуецца сп. Уладзімір Бычкоўскі?

Адыходзяць ад нас музыкі і кампазытары, якія былі зьвязаны ў той ці іншай меры з Саўт-Рывэрам. Бязумоўна, яны былі рознага ўзроўню і жанру, але ўсіх іх яднала любоў да беларускае песьні ці музыкі. Гэта былі: Геранім Хмура, Алімп Меленьцьеў, Дзімітры Верасаў, Усевалад Селях-Качанскі, Язэп Жыдовіч, Юльян Рымко і цяпер адышоўшы ад нас, Уладзімір Бычкоўскі. Гэтыя людзі зрабілі цэнны ўклад у разьвіцьцё і папулярызацыю беларускай песьні і музыкі па-за межамі бацькаўшчыны. І так, дарагі Валодзя, бывай!

Хай яму будзе пухам гэтая амэрыканская зямля. Хай яму сьняцца сны аб любімай Беларусі.

**М. С-ка**

# ДАКУМЭНТЫ ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ

*(Заканчэньне з 4-й ст.)*

## ЗВАРОТ

**удзельнікаў Першага зьезду беларусаў сьвету да Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь «Аб устанаўленьні мэмарыяльнай дошкі на будынку, дзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка»**

Дэлегаты і госьці зьезду выказваюць занепакоенасьць, што ўлады Рэспублікі Беларусь і гораду Менску дасюль не далі дазволу афіцыйна на ўстанаўленьне мэмарыяльнай дошкі на будынку ў г. Менску, дзе была абвешчана БНР і які добра захаваўся.

Выказваем пажаданьне і шчырае спадзяваньне, што гэтая справа — відавочная дзеля карэннага дзяржаўнага інтарэсу Беларусі, гістарычнае памяці, нацыянальнае годнасьці беларускага народу, — будзе неадкладна і станоўча вырашана яшчэ да закрыцця зьезду.

Прынята аднагалосна 8.07.93, г. Менск.

## ПАСТАНОВА

**аб Радзе прадпрымальнікаў беларускай дыяспары**

1. Першы зьезд беларусаў сьвету падтрымлівае стварэньне пры Згуртаваньні беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» Рады прадпрымальнікаў беларускай дыяспары і яе імкненьні, накіраваныя на падтрымку нацыянальна-культурнага адраджэньня і хутчэйшую інтэграцыю эканомікі краіны ў сусьветнае супольніцтва.

2. Прасіць Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах спрыяньня дзейнасьці Рады прадпрымальнікаў беларускай дыяспары і створаных на яе аснове эканамічных структур прыняць адпаведныя пастановы і рашэньні.

3. Прасіць Міністэрства замежных спраў праз пасольствы, консульствы і прадстаўніцтвы Рэспублікі Беларусь аказваць неабходную дапамогу і спрыяньне ў эканамічнай дзейнасьці Рады прадпрымальнікаў беларускай дыяспары і яе прадстаўнікоў.

4. Прасіць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аказаць спрыяньне Радзе прадпрымальнікаў беларускай дыяспары ў стварэньні міжнароднага цэнтру прадпрымальніцтва ў г. Менску.

Прынята аднагалосна 10.07.93, г. Менск.

**БРЫТАНСКІ ПАБРАЦІМ МЕНСКУ ПАМАГАЕ БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ**

Зь ініцыятывы мэра гораду Нотынгему, пабраціма беларускае сталіцы, адбылася 6 чэрвеня прэзэнтацыя, на якой былі прысутныя прадстаўнікі ад розных установаў гораду. Сп. Эндру Бэльфільд, старшыня дапамаговай арганізацыі «Адкрытыя рукі», заклікаў жыхароў Нотынгему да шчодрасьці ў памаганьні дзецям, што пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі. Прадбачваецца, што сёлета будзе выслана ў Менск прыблізна 100 тонаў дзіцячых харчоў і мэдыкамэнтаў.

Ад беларусаў з прамовай і падзякай на сустрэчы выступіў сп. Алег Якавіцкі, беларускі консуль у Вялікабрытаніі, які толькі нядаўна пачаў працаваць на сваім становішчы.

**М. Баяроўскі**

**НА ПОМНІК МІХАСЮ ТКАЧОВУ**

Выканкам Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады шчыра дзякуе грамадзянам, прадпрыемствам і арганізацыям, якія ўнеслі сродкі на будаўніцтва помніка Міхасю Ткачову. Міхась Ткачоў — першы старшыня БСДГ, вядомы беларускі вучоны, доктар гістарычных навук, прафэсар, былы галоўны рэдактар выдавецтва Беларускай энцыклапэдыі. Памёр у 1992 годзе.

Для тых, хто жадае дапамагчы ў пабудове помніка, нагадваем, што сродкі трэба пералічваць на адрас: 220600, г. Мінск, вул. А. Кашавога, 9, Заводзкае аддзяленьне Белпрамбудбанка, рахунак 700810, код 338, ЦР БСДГ, на помнік М. Ткачову, або ў рэдакцыю газэты «Беларус».

**Алег Трусаў**
**Старшыня ЦР БСДГ**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасрэдна ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| М. Занковіч | ам. д. 100 |
| Я. Юхнавец | 30 |
| Л. Вініцкі | 25 |
| М. Зуй | 13 |
| М. Яськевіч (Манчэстэр) | анг. ф. 5 |

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Ю. Кіпель | 150 |
| П. Кулеш (у памяць дарагой жонкі Ніны) | 75 |
| М. К. | 50 |
| Л. Шурак | 35 |
| Я. Сапежынскі | 30 |
| Я. Канарчук | 30 |
| Н. Кіт | 25 |
| М. Александар | 25 |
| С. Шыян | 25 |
| Ю. Станкевіч | 25 |
| М. Ігнатовіч | 25 |
| М. Олійнык | 25 |
| М. Бахар | 25 |
| В. Макац | 25 |
| С. Шабовіч | 25 |
| М. Сенька | 25 |
| Г. Майсевіч | 25 |
| С. Грамыка | 25 |
| К. Барысавец | 25 |
| Н. Кудасава | 25 |
| М. Рагалевіч | 25 |
| К. Ворт | 25 |
| С. Трыгубовіч | 25 |
| З. Завістовіч | 25 |
| С. Дубоўскі | 10 |
| Разам | 830 |

Шчыры дзякуй усім!

**Адміністрацыя «Беларуса»**